PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 23 (1934) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 6 ЧЭРВЕНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## KANTOR
### як паказчык моўнай свядомасці беларусаў

Выбраўся я днямі на беластоцкі рынак. Не з мэтай нажывы - на няшчасце, а можа, і на шчасце, не даў мне Бог камерцыйных талентаў, а - проста так, паглядзець, як маюцца тут прафесійныя гандляры, менчукі-суайчыннікі. Іду ўздоўж яткаў, гляджу - пажылая цётка з хімічна завітай фрызурай расклала на газеце нейкія няхітрыя танныя транты, а побач - возікі на двух колах, на якіх падобныя цёткі і дастаўляюць падобныя транты на беластоцкі рынак. Па хімічнай завіўцы, трантах і возіках я й прызнаў у цётцы суайчынніцу. Але ўвагу прыцягнула не цётчына барахло, а свежая беларуская газета, на якой яно было раскладзена. У Менску я не быў ужо больш як два тыдні, а таму, натуральна, цікава - што ж там у былой БССР адбываецца. "Pani, - спрабую звярнуцца па-польску, каб не раскрываць інкогніта, - chciałbym kupić ten gazeta". Цётка глянула на мяне выразна, нібыта на вар'ята, але згадзілася аддаць проста так, без грошай. "Бери, пан, - кажа, - я все равно ухожу". Пачала гандлярка складаць транты ў валізкі ды чамаданы, а я паглыбіўся ў чытанне - што ж дзеецца ў мілай майму сэрцу Айчыне? Зрэшты, мог і не чытаць - інфляцыя, дэвальвацыя, карупцыя, крымінальшчына, дзялёж улады, і ўсё - на фоне жахлівага жабрацтва. Сабраўся я ўжо тую газету выкінуць, як бачу - знаёмае прозвішча. Адна экс-камсамольская паэтка (цяпер - мужная змагарка за бел-чырвона-белую справу) піша пра нейкага рупліўца, які ўсё свядомае жыццё... прысвяціў... Бацькаўшчына... Адраджэнне... Жыве Беларусь! Асноўная мараль: усе беларусы, усе, як адзін, павінны стаць рупліўцамі, і тады, маўляў, Беларусь стане Беларуссю. Праўда, што для гэтага трэба рабіць, экс-камсамольская паэтка не піша.

Кінуў я тую газетку ў сметніцу і пайшоў за цёткай. А куды яна рушыць, я ведаю выдатна - у kantor, памяняць зароблены гандлем pieniądze на амерыканскія долары. Алгарытм дзейнасці вельмі просты: "тавар" - "грошы" - "тавар". Палітэканомія паводле Карла Маркса. Гэта мы яшчэ ў школе вучылі.

Карацей, прыходзіць тая цётка да kantoru, працягвае свае pieniądze ў ваконца і кажа: "Калі ласка, памяняйце на долары". А потым яшчэ й "дзякуй пану". Праз хвіліну падыходзіць да гандляркі сяброўка, каб абмеркаваць дзённыя здабыткі, і зноў чую цётчын голас: "Сегодня ничего наторговала, почти тридцать долларов. Сигареты все продала, а трусов немножко осталось..." Тут я не ўтрымаўся і запытаў: "Скажыце, калі ласка, чаму да пана ў kantory вы звярнуліся па-беларуску, а між сабой размаўляеце па-расейску?" Цётка глянула на мяне яшчэ

☞ Працяг на стар. 3



*Лясныя заляцанні.* **Фота А. Вярбіцкага**

## МУЗЫКА СЯРОД ІКОНАЎ

Як дагэтуль, дык толькі ў Гайнаўцы арганізоўваюць мерапрыемства дзеля шырокай папулярызацыі праваслаўнай царкоўнай музыкі. Фестываль праваслаўнай музыкі мае сусветны маштаб. Вось і сёлета, на працягу шасці майскіх вечароў можна было паслухаць рэлігійныя спевы ў найлепшым выкананні. Гэтым разам музычны рэпертуар папоўнілі яшчэ рэгіянальныя "расспевы" - помнікі старадаўнасці ў царкоўнай музыцы.

У апошні майскі тыдзень гэтага года ў Святатроіцкім саборы і Гайнаўскім Доме культуры праходзіў XII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі. У яго ўрачыстым адкрыцці ўдзельнічалі прадстаўнікі высокіх свецкіх і царкоўных улад, між іншым - віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела, мітрапаліт Васілій, беластоцкі віцэ-ваявода Аляксандр Усакевіч і пасол Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько.

Фестываль адкрыў вядомы ў музычным свеце Ансамбль царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы, якім кіруе а. Юры Шурбак. У сёлетнім фестывалі ўдзельнічала трыццаць краёвых і замежных хораў, звыш тысячы выканаўцаў. Старшынёю конкурснага журы быў праф. Рамуальд Твардоўскі, выкладчык Музычнай акадэміі ў Варшаве. З 23 да 30 мая адбылося 26 канцэртаў у гарадах і вёсках Беласточчыны. Арганізатары, сярод іх галоўны - Гайнаўскі Дом культуры з яго дырэктарам Мікалаем Бушко, выдалі - было гэта ўпершыню - фестывальную газету, прафесійна рэдагаваную Ганнай Радзюкевіч.

На сёлетнім фестывалі выступіла адзінаццаць замежных хораў, сярод якіх - хор Святапакроўскага манастыра ў Харкаве (Украіна), хор Св. Аляксан-

☞ Працяг на стар. 2

## З'ЕЗД БЕЛАРУСКАЙ МЕНШАСЦІ

У днях 8-10 ліпеня ў Менску і вобласці будзе праходзіць І-шы З'езд беларусаў свету. Арганізатарамі З'езда з'яўляюцца Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. З'езду маюць спадарожнічаць наступныя ўрачыстасці і навуковыя сустрэчы: святкаванне Купалля на Стаўбцоўшчыне (радзіме Якуба Коласа), Нарачанскі фестываль, навукова-асветніцкія мерапрыемствы ў Нясвіжы і Полацку (праводжаныя пад апекай Скарынаўскага цэнтра). Гэта, па сутнасці, усё, што канкрэтна вядома пра З'езд. Ніякай афіцыйнай праграмы, наколькі я ведаю, ніхто на Беласточчыне не атрымаў. Таму цяжка прадугадаць, якія пытанні будуць ставіцца арганізатарамі для абмеркавання ўдзельнікамі гэтага збору. Нічога канкрэтнага не раз'ясніў і так званы З'езд беларусаў блізкага замежжа, які праводзіўся ў снежні мінулага года і меўся быць нечым накшталт падрыхтавання да ўсебеларускага з'езда. Нічога не раз'ясніў, нічога не падрыхтаваў.

Затое над З'ездам стварылася ўжо крыху скандальная аўра. Беларускі народны фронт, прадстаўнікі якога разам з прадстаўнікамі „Бацькаўшчыны" выступілі з ініцыятывай правядзення гэтага мерапрыемства на сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкі, адмовіўся прыняць удзел у З'ездзе, абгрунтоўваючы гэта тым, што ў цяперашняй палітычнай сітуацыі ў Беларусі З'езд можа быць выкарыстаны ўрадам для маральнага і прапагандысцкага падмацавання сваёй антынароднай і антыбеларускай палітыкі. Як і належала спадзявацца, З'езд трапіў у вір палітычных страсцяў. З тых нешматлікіх і скупых звестак, якія даходзілі да нашай рэдакцыі, вынікала, што аргкамітэт праводзіў свае чарговыя пасяджэнні, абмяркоўваў нейкія праблемы (між іншым, назву мерапрыемства: форум? сход?), потым, здаецца, займаўся праблемай вызначэння дэлегацкіх квотаў (хіба, меркавалася праводзіць нейкае галасаванне?), але нічога канкрэтнага так і не вырашыў. Тым часам там і сям з'явіліся ў беларускай эміграцкай прэсе рэзалюцыі і ацэнкі ліпеньскай сустрэчы ў Менску, якія адно пабольшылі агульнабеларускую збянтэжанасць і інфармацыйную энтрапію (а Міністэрства інфармацыі Беларусі — адзін з афіцыйных арганізатараў З'езда, ніякай талковай інфармацыі пра яго так і не дало). Выглядае на тое, што і гэтая ліпеньская сустрэча можа абярнуцца ў яшчэ адзін форум беларускіх прэтэнзій і агульнага наракання, як нам беларусам цяжка паразумецца.

З'езд, які б ён ні быў, несумненна

☞ Працяг на стар. 2

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Да гэтай падзеі Лёнік, як яго клічуць сябры, імкнуўся ўсё жыццё. Яго шанавалі паўсюль у Эўропе, у сусветным цэнтры мадэрновага мастацтва — Новым Ёрку, у Ізраілі. Але ён, можа крыху сэнтыментальна, чакаў таго моманту, калі з ягонай творчасьцю здолеюць пазнаёміцца на Беларусі. Нарэшце зьмяніліся часы, і арганізацыяй выставы таленавітага беларускага мастака зь Беласточчыны заняліся аж на ўзроўні міністэрстваў культуры Польшчы й Беларусі. Але вось з-за гэтай апошняй установы і пачаліся „сюрпрызы". Каталёг, макет і слайды для якога былі перададзены паўтары гады таму, ня быў выдадзены. (...) Лішне казаць, што на выставе й „конь не валяўся". Але больш за ўсё мастака абурыла тое, што пры разгрузцы ягоных карцінаў некаторыя былі пашкоджаны. Рэклямныя плякаты, эскіз якіх ён перадаваў раней, аддрукаваныя не былі. Замест іх зрабілі традыцыйныя „саўдэпаўскія", дзе чырвонымі літарамі паведамлялася пра выставу нейкага Леона Тарасевіча. (...) Выставу Лёнік усё ж такі зрабіў Сам. Яму дапамагалі браты Кашкурэвічы — Іван (хіба, Ігар? — рэд.) і Хведар. Апошнія суткі яны не выходзілі з выставачнай залы. Зрабілі не дзеля міністэрства, а дзеля сяброў і знаёмых. Апошнія суткі яны ня спалі зусім. На прэсканфэрэнцыю прыйшлі таксама толькі сябры й іх знаёмыя. Лёнік быў босы й у запэцканым фарбай працоўным камбінэзоне. Ён быў страшэнна стомлены, абураны й расчараваны.*

*(Пагоня, н-р 14, Алесь Астраўцоў пра выставу Лявона Тарасэвіча ў Менску)*

Leonie Tarasiewiczu, wystawy na Białorusi ci się zachciało, co? А шиш видел?!

* * *

*Для Беларусі рабіць стаўку на сілу, імкнуцца дэманстраваць мускулы — гэта азначала б не ўмацаванне бяспекі, а наадварот, рост пагаршэнне адносін з суседзямі, рост ваенных расходаў, зніжэнне і без таго невысокага ўзроўню жыцця людзей. Што нясе народу гонка ўзбраенняў, у якую, не выключана, у перспектыве будзе ўцягнута Беларусь у выпадку ўступлення ў ваенна-палітычны блок, — наш народ ведае не па чутках. За сучасныя самалёты, танкі і ракеты, якія меў былы Савецкі Саюз, людзі плацілі тым, што не мелі тых сучасных кватэр, аўтамабіляў, адзення, прадуктаў, якія мелі іншыя еўрапейцы. (...) Калі пытанне на рэферэндуме аб далучэнні да сістэмы калектыўнай бяспекі будзе пастаўлена канкрэтным чынам, без казуістыкі і заблытвання, — няма сумнення, што людзі выкажуцца за нейтральную Беларусь, за „масла замест гармат".*

*(Звязда, н-р 87, Станіслаў Шушкевіч, пра нейтралітэт Беларусі)*

* * *

*Ksiądz Anganaraz stwierdził, że odrodzenie religijne jest tylko w Ameryce Południowej. Odrodzenie religijne działa tam cuda. Kościół latynoamerykański jest ogrodem kościoła — kościołem przyszłości.*

*W Polsce czuł się jak w Ameryce Łacińskiej.*

*— Musicie zrozumieć — powiedział — że jesteście narzędziem ewangelizacji. Tak jak Włosi. Dziękujcie Panu za to. Nie zrobicie komputera, nie zrobicie mercedesa, nie zrobicie pięknych, włoskich butów, ale na pewno potraficie ewangelizować.*

*(Kurier Poranny, nr 97)*

Сапраўды яно так. І таму польскі парламент павінен кінуць усе гэтыя дыскусіі аб прыватызацыі, а падрыхтаваць закон аб евангелізацыі. Без чаравікаў, без камп'ютэраў, але ўсё роўна як у Італіі.

* * *

*Każdy poseł miesięcznie kosztuje państwo ok. 40 mln. złotych plus darmowe przejazdy służbowym samochodem i korespondencja. Klubom parlamentarnym dodatkowo przydziela się sumę 2,4 mln pomnożoną przez liczbę posłów w Klubie.(...) Na każdego posła przypada 2 pracowników administracji. W tym roku ich liczba ma się powiększyć o 100 osób. Podobno jest to konieczne, aby posłom wygodnie się pracowało i aby lepiej byli chronieni.(...) Posłowie mają do dyspozycji hotele, sklepy, bufety, kawiarnie, restauracje, fryzjera, basen, biura, które są gotowe na każde ich skinienie.*

*(Polityka, nr 20)*

І ці ж трэба здзіўляцца, што няма паразумення паміж беларусамі ў змаганні за месца ў польскім парламенце?

* * *

*15% posłów w rubryce „wykształcenie" z rozbrającą szczerością wyznaje — „nie dotyczy".*

*(Polityka, nr 20)*

No bo weź się i wykształć w tym kapitalizmie, як кажуць у Гарадку.

* * *

*„Telewizja! To kretyńskie nieważne i trywialne medium, które służy głównie reklamie i doradza nam, jakie kupić proszki do prania."*

*(Polityka, nr 22)*

## З мінулага тыдня

**Прадстаўнікі польскай і ўкраінскай дыпламатыі ў прысутнасці прэзідэнтаў Леха Валэнсы і Леаніда Краўчука** падпісалі ў Кіеве дакументы аб узаемным супрацоўніцтве і юрыдычных адносінах паміж Польшчай і Украінай.

**Пасля заканчэння афіцыйнага візіту** ў Кіеў прэзідэнт РП **Лех Валэнса** сустрэўся з палякамі ў двух украінскіх гарадах — Вінніцы і Львове. Знаёмячыся з „польскім шляхам" у Львове, Лех Валэнса ўсклаў вянкі да помнікаў Адаму Міцкевічу і Львоўскім Арлянятам, наведаў кафедру і Лычакоўскі могільнік. Лейтматывам сустрэч прэзідэнта РП з украінскімі палякамі былі заклікі да прымірэння, пагаднення, партнёрства і супрацоўніцтва.

**У Супраслі адбыўся навуковы сімпозіум, прысвечаны ролі Супрасльскай лаўры ў гісторыі Праваслаўнай Царквы**, арганізаваны Праваслаўным брацтвам Кірылы і Мяфодзія. Аб лёсах Супрасльскага манастыра і яго ролі ў гісторыі Падляшша дыскутавалі навукоўцы і духоўныя з Польшчы, Беларусі і Расеі. Нарадзе спадарожнічала фотавыстава Віктара Волкава „Сакральная архітэктура Падляшша". Удзельнікі сімпозіума накіравалі прэзідэнту РП Леху Валэнсу і прэм'ер-міністру Ганне Сухоцкай ліст з заклікам паспрыяць вяртанню манастырскай маёмасці яго законнаму гаспадару — Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

**II Сусветны кангрэс русінаў (лэмкаў)** адбыўся ў Крыніцы-Здрою. Удзельнічала ў ім звыш ста дэлегатаў з Польшчы, Славакіі, Румыніі, Венгрыі, Украіны і былой Югаславіі. „Мы не думаем ствараць сваю дзяржаву. Не хочам выклікаць дэмонаў нацыяналізму. Дастаткова нам мець свядомасць, што мы народ", — сказаў на кангрэсе сябра Таварыства лэмкаў з Легніцы Яраслаў Гарошчак. Да гэтай пары польскія ўлады не прызналі для лэмкаў праваў нацыянальнай меншасці. Удзельнікі кангрэса ўстрывожаны ходам асіміляцыі. Каб супрацьдзейнічаць гэтай адмоўнай з'яве, Таварыства лэмкаў падрыхтавала падручнік лэмкаўскай граматыкі і працуе над польска-лэмкаўскім слоўнікам.

**II Кангрэс польска-нямецкіх і нямецка-польскіх таварыстваў** адбыўся ў Шчэціне. Сустрэча, у якой удзельнічала каля 400 чалавек з Польшчы і Нямеччыны, праходзіла пад лозунгам „Палякі і немцы супольна ў Еўропе". Вядучай тэмай кангрэса была пабудова польска-нямецкіх адносін на прынцыпах узаемнага даверу і сяброўства.

**Ваяводскія элімінацыі XXIV дэкламатарскага конкурсу „Паэзія і проза на ўсход ад Буга"** адбыліся ў Беластоку. 13 вучняў з падставовых школ і 9 ліцэістаў прадэкламавалі творы, між іншым, Янкі Купалы, Сакрата Яновіча, Марыны Цвятаевай, Булата Акуджавы, Анны Ахматавай, Аляксандра Блока. У групе ліцэістаў пераможцамі сталі: **Анна Клебус, Каміля Кляпацкая і Уршуля Родзевіч** ( усе з Беластока), а ў групе вучняў падставовых школ: **Анна Ярмуляк** з Бельска-Падляшскага, **Івона Акрупіка** з Баршчэва і **Дарота Барова** з Беластока. Арганізатары конкурсу — Таварыства супрацоўніцтва Польшча — Усход і Міністэрства нацыянальнай адукацыі.

**Краёвы саюз сялян, сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый праваў** у Варшаве агульнапольскі пратэст сялян супраць сённяшняй аграрнай палітыкі. Кожны з удзельнікаў дэманстрацыі павінен быў узяць з сабой кілаграм саломы як сімвал кандыцыі нашай сельскай гаспадаркі. З Беластока ў Варшаву паехала каля ста земляробаў на двух аўтобусах.

## Праз тыдзень у „Ніве"

- ✓ Новае "месца моцы" ў Белавежскай пушчы адкрыў П. Байко.
- ✓ Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.
- ✓ Праблемы Мілейчыцкай гміны.
- ✓ Зямлю трэба шанаваць як малое дзіця або каханку — пераконвае М. Лук'янюк.



# З'ЕЗД БЕЛАРУСКАЙ МЕНШАСЦІ

Працяг са стар. 1

адбудзецца. Ён для шмат каго з заакіянскага замежжа можа стацца апошняй нагодай пабачыць Бацькаўшчыну і сустрэцца з землякамі. І яшчэ раз засведчыць сваю волю бачыць Бацькаўшчыну вольнай і беларускай дзяржавай. Адначасова нельга забывацца, у якіх палітычных умовах будзе праходзіць тое спатканне: Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб уваходзе Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі некаторых рэспублік былога СССР, што дэ-факта абазначае страту і таго слабамоцнага суверэнітэту Беларусі, які яна дасягнула да гэтай пары; у Беларусі ідзе адкрытая кампанія за вяртанне расейскай мове статуса дзяржаўнай, што зноў жа дэ-факта абазначаць будзе адыход ад беларусізацыі і, у рэшце рэшт, пахаванне шанцу на адраджэнне беларускай мовы. Мне асабіста не вядомая ніводная суполка беларусаў па-за межамі Рэспублікі, якая б маральна падтрымоўвала тыя рашэнні ў сферы нацыянальнага беларускага жыцця, што прымаюцца ўрадам рэспублікі або Вярхоўным Саветам. Таму я і не думаю, што на З'ездзе будуць магчымы нейкія палітычныя правакацыі з боку посткамуністычных прарасейскіх сілаў, якая б уцягнула ягоных удзельнікаў у маральна нячыстыя спекуляцыі лёсам беларушчыны. З другога боку трэба таксама без ілюзіі сцвердзіць, што З'езд аніякім сваім рашэннем не ўзмозе паўплываць на курс адраджэння нацыянальнага беларускага жыцця, які ў прынцыпе залежыць выключна ад уладаў Рэспублікі і пакуль імі затармажваецца. Калі Вярхоўны Савет без аніякіх палітычных наступстваў змог праігнараваць волю амаль паўмільёна сваіх суграмадзян наконт правядзення народнага рэферэндуму, дык чаму ж бы ён меў прыслухоўвацца да голасу пару соцень „замежных беларускіх нацыяналістаў"?

У як жа іншых абставінах праводзяцца падобныя мерапрыемствы ў палякаў, скажам з'езды таварыства сувязі з суайчыннікамі „Wspólnota Polska". На іх з'язджаюцца людзі, каб атрымаць маральную і матэрыяльную апору для захавання свае нацыянальнае тоеснасці і замацавання лучнасці з Айчынай. У нас ні на адно, ні на другое ўдзельнікі І-га З'езда беларусаў свету разлічваць не могуць. Сітуацыя хутчэй за ўсё такая, што гэта менавіта Бацькаўшчыне патрэбная падтрымка ад тых суродзічаў, якія жывуць па-за яе палітычнымі межамі. Бо беларусы пакуль што — паўсюды меншасць як у дыяспары, гэтак і ў сваёй краіне. Без сумнення, Бацькаўшчына такую падтрымку на З'ездзе атрымае. Але памятайма, што Бацькаўшчына — Беларусь — не раўназначная тым людзям, якія зараз вяршаць яе палітычны лёс.

**ЯН МАКСІМЮК**

# МУЗЫКА СЯРОД ІКОНАЎ

Працяг са стар. 1

дра Неўскага з Прэшава (Славакія), хор "Рутэнія" з Тарту (Эстонія), "Орфэй" з Адрэс (Румынія), хор "Срэдэтс" з Сафіі (Балгарыя), парафіяльны хор са Стакгольма (Швецыя) і хор імя Рыгора Шырмы з Менска (Беларусь).

Гайнаўскі фестываль як унікальная з'ява мае вялікую сілу мастацкага ўздзеяння. Літургічны спеў сярод ікон карыстаецца вялікай папулярнасцю. У папярэднія гады пад купаламі гайнаўскага Сабора Святой Тройцы выступалі хоры з Паўночнай Амерыкі, Фінляндыі, Жыровіцкага манастыра, Пачаеўскай лаўры і іншыя. Сярод іх - самыя выдатныя і славутыя.

Сёлета арганізатары адзін дзень фестывалю прысвяцілі семінару дырыжораў. Сваім вопытам з яго ўдзельнікамі падзяліліся праф. Віктар Роўда з Беларусі, а таксама а. Юры Шурбак і а. Міхал Негярэвіч. Тыя, хто не мелі магчымасці ўдзельнічаць у фестывалі, 30 мая маглі паслухаць гала-канцэрт у выкананні лаўрэатаў сёлетняга конкурсу ў беластоцкай філармоніі. Падчас фестывалю кіраўніцтва беластоцкага ПКС пусціла дадатковы аўтобус з Гайнаўкі ў Беласток. Ён дазволіў беластачанам вяртацца пасля перадвячэрніх канцэртаў дадому.

Больш падрабязна пра сёлетні фестываль у Гайнаўцы чытайце ў "Ніве" праз тыдзень.

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## ДВАНАЦЦАТЫ "ДЭМАКРАТЫЧНЫ"

З 21 да 23 мая ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку адбываліся дза цікавыя мерапрыемствы - навуковая канферэнцыя "Дарога да ўзаемнасці" і XII З'езд Таварыства. З прыемнасцю інфармуем чытачоў "Нівы", што арганізатары - кіраўніцтва БГКТ - падчас гэтых мерапрыемстваў шмат увагі прысвяціла нашаму тыднёвіку.

Канферэнцыя была прысвечана польска-беларускім адносінам. Выступіла на ёй звыш 30-ці навукоўцаў, дэпутатаў, высокіх урадаўцаў з Польшчы і Беларусі. У адкрыцці канферэнцыі прыняў удзел пасол Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько, які пасля абеду быў госцем нашай рэдакцыі.

З дакладам выступіў таксама сённяшні старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, які расказаў аб накірунках дзейнасці сваёй арганізацыі. Спадар Сычэўскі найцікавей гаварыў пра "Ніву". Ён заявіў удзельнікам канферэнцыі, што з моманту выхаду рэдакцыі з-пад кантролю БГКТ "Ніва" страціла "беларускі дух", стала амаль антыбеларускай газетай, яе ўзровень падае з нумара ў нумар, а чытачы перасталі яе чытаць.

У нядзелю, 23 мая адбыўся XII З'езд БГКТ. Яго шматгадовы старшыня (цяпер ганаровы старшыня) Аляксандр Баршчэўскі ў сваім выступленні, якое было галоўным пунктам праграмы, даказаў, што межам дэмагогіі канца-краю няма. Супрацоўнікаў "Нівы" і дзеячоў бліжэй неакрэсленых арганізацыяў спадар Баршчэўскі назваў камуністамі, горшымі за апаратчыкаў былой КПСС. Гаварыў штосьці пра планы зніштажэння БГКТ нейкімі дэманічнымі сіламі, але, як заявіў, арганізацыя пратрывала ўсе нягоды і квітнее далей.

Цяжка сказаць, што меў на ўвазе спадар Баршчэўскі, закідаючы "Ніве" камунізм; магчыма, думаў пра свае фельетоны з цыкла "На мяжы", якія мы пастаянна друкуем.

Як адзіная беларуская "масавая" і "дэмакратычная" арганізацыя, БГКТ будзе дамагацца ў Міністэрстве культуры і мастацтва РП датацый на свой прэсавы орган.

У сапраўды дэмакратычны спосаб было выбрана Галоўнае праўленне Таварыства. 75 % загадзя падабраных кандыдатаў запрапанавала "камісія", а толькі 25 % маглі прапанаваць дэлегаты з залы.

"Дэмакратычную" плынь у беларускім грамадскім руху на наступныя чатыры гады ўзначалілі такія выдатныя дзеячы, як: Аляксандр Баршчэўскі (ганаровы старшыня), Ян Сычэўскі (старшыня), Мікалай Нікалаюк (намеснік старшыні) і Валянціна Ласкевіч (сакратар ГП БГКТ).

Віншуем дэлегатаў з трапным выбарам "новых" улад сваёй арганізацыі!

Рэд.

## ПАНАРАМА ЧЫЖОЎСКАЙ ГМІНЫ (III)



### Гмінная асвета

У цяперашні час школы фінансуюць куратория асветы і гмінныя ўправы. Чыжоўскія гмінныя ўлады фінансуюць прадшкольныя аддзелы і праезд дзяцей у школы.

У Чыжах вучыцца 218 дзяцей. На ўрокі беларускай мовы ходзіць 127 вучняў. Чыжоўская школа мае сваю невялікую гаспадарку. Гміна перадала ёй пяць гектараў зямлі, з якой чатыры гектары ворнай. Школа гаспадарыць на ёй і вядзе гадоўлю на патрэбы сваёй сталоўкі, - паінфармаваў дырэктар Сяргей Наскові́ч.

Настаўніцкія кадры ў Чыжах, адзначыў дырэктар, людзі з вышэйшай адукацыяй і педагагічнай падрыхтоўкай. Няма толькі настаўнікаў па фізічнай культуры і пластыцы (рысаванне, маляванне), але гэта ўжо агульная з'ява.

У Падставовую школу ў Кленіках, акрамя мясцовых вучняў, ходзяць яшчэ дзеці з навакольных вёсак Ляхі, Гародчына, Радзькі, Істок, Вялікія і Малыя Тыневічы, Лапухоўка, Гукавічы і Сапава. Дзеці з гэтых вёсак складаюць больш за дзве трэція агульнай колькасці вучняў. Усяго ў I-VIII класах - сто дванаццаць дзяцей. Прадшкольны аддзел у Кленіках (5- і 6-годкі) налічвае 27 дзяцей - расказаў дырэктар Ян Лабузінскі.

Нягледзячы на тое, што цяпер нават на вёсцы бацькі выхоўваюць сваіх дзяцей па-польску, і на тое, што вывучанне беларускай мовы добраахвотнае, у школе ў Кленіках 74 чалавек вывучае гэты прадмет. Настаўніцай беларускай мовы ў Кленіках працуе Вера Флёрчук. Існуе ў школе, між іншым, і вакальна-музычны хлапечы гурт.

У Падставовай школе ў Курашаве вучыцца 51 дзіця. На ўрокі роднай мовы, якія вядзе настаўніца Людміла Дзмітрук, ходзіць 38 дзяцей (беларускай мовы не вывучаюць у першым класе). У школе ёсць этнаграфічны куточак, а ў ім - прадметы народнай вытворчасці. Экспануюцца беларускія выданні, між іншым - кніжкі "белавежцаў", беларускія календары, газеты і часопісы, у тым ліку і наш беларускі тыднёвік "Ніва". Ёсць памятныя фотаальбомы.

Варта адзначыць, што ва ўсіх трох школах Чыжоўскай гміны ў бягучым годзе аўтарскія сустрэчы правёў "белавежац" Янка Целушэцкі. Найбольш кніжак падпісаў ён у Курашаве.

Усім школам дапамагае Гмінная ўправа ў Чыжах. На яе фінансавыя сродкі купілі відэамагнітафоны, касеты і неабходную колькасць вугалю.

### Культурнае жыццё

У шмат якіх гарадах, гмінных цэнтрах ды пасёлках культурнае жыццё пакрысе прыходзіць у занядап, спыняюць сваю дзейнасць шматлікія асяродкі культуры ды святліцы. У Чыжоўскай гміне дзейнічае асяродак культуры ў Чыжах (быў ён заснаваны 31 снежня 1974 года), клубы ў Моры, Збучы, Койлах, Курашаве, Камені і Кленіках, а таксама гмінная публічная бібліятэка і яе філіял у Кленіках. „Не быў ліквідаваны ніводны вясковы клуб! - падкрэсліў не без задавальнення войт Рыгор Мацкевіч. - Пяць з іх - у Кленіках, Збучы, Моры, Курашаве і Камені - нават адрамантавалі і памалявалі. У іх адбываюцца маладзёжныя танцавальныя вечарыны, рэпетыцыі мастацкіх калектываў ды сямейныя ўрачыстасці - вяселлі, хрэсьбіны і іншыя мерапрыемствы". Для святліц гмінныя ўлады купляюць тэлевізары і іншае клубнае абсталяванне. Працуюць у клубах фальклорныя калектывы: "Чыжавяне" ў Чыжах і "Незабудкі" ў Курашаве ды вакальны гурт "Мангатон" у Гміным асяродку культуры. Вядомы яшчэ са сваёй актыўнасці клуб спадарожнікавага тэлебачання "Астра" і бойкі спартыўны гурток "ГОК" з футбольнай камандай, якая іграе ў класе "Б".

З лістапада 1992 года песенным ансамблям многа дапамагае інструктар-музыка Анатоль Куніцкі з Гародні (Беларусь).

У Чыжоўскай гміне арганізуюць беларускія фестыны і іншыя народныя гулянні, сустрэчы з беларускімі літаратарамі і мастакамі, канцэрты мастацкіх калектываў з суседніх гмінаў, а таксама з Беларусі, Расіі і Украіны. Добра зарэкамендавалі сябе на штогадовых конкурсах беларускай песні, а таксама на дэкламатарскіх конкурсах юныя спевакі і акцёры са школ у Чыжах, Кленіках і Курашаве.

### Шляхі і дарогі

Дарогі - гэта таксама візітная картачка гміны. На працягу дваццаці гадоў у Чыжоўскай гміне паклалі асфальт на 23 кіламетрах важнейшых дарог: са Збуча ў Кленікі (10 км), з Новага Беразова ў Курашава і з Кленікаў у Гародчына (па 6 км) ды з Асоўкі ў Койлы (1 км). Асфальт паклалі таксама ў сялецкіх вёсках Мора, Збуч, Кленікі, Камень, Курашава, Койлы, Шастакова і Асоўка. Тратуары атрымалі вёскі Чыжы і Кленікі I. Сёлета ў маі праклалі тратуар у салэцтве Кленікі II, даўжынёю ў 1 кіламетр. Запланавалі пабудову гравеек з Асоўкі ў Новае Беразова (2,5 км) і з Шастакова ў Старое Беразова. Можна спадзявацца, што сёлета пакладуць асфальт на 700-метровым адрэзку дарогі з Чыжоў у Асоўку.

Ёсць вялікая патрэба пабудовы даязных дарог з вёсак на палі і сенажаці. Сёлета пры пабудове такой дарогі працавалі ў грамадскім пачыне жыхары Збуча, Шастакова, Кленікаў і Слівова. Цяпер па роўнай дарозе ездзяць у Бурыцкія. Для збучан войт падаслаў землечарпалку. Пясок і гравій сяляне вазілі ўласнымі трактарамі. У гміне 84 кіламетры мясцовых дарог.

*(Працяг будзе)*

ЯНКА ЗАРЭЧНЫ

## KANTOR...

☛ *Працяг са стар. 1*

больш выразна, чым тады, калі я запрапанаваў ёй грошы за непатрэбную газету: "Так они ж, того, поляки... з імі лепш па-беларуску, чым па-руску... беларуская мова к польской ближе, лучше поймут... И вообще, откуда ты тут взялся, псих ненормальный! Иди, куда шёл!.." Ужо адыходзячы, я пачуў у спіну ўлюбёную фразу савецкіх вахцёраў і вартаўнікоў: "Ходют тут всякие..."

А цяпер мушу зрабіць выснову, ці мараль - бо куды ж без яе? Цётка тая звярнулася да пана ў kantory па-беларуску не з патрыятычных пачуццяў, а таму, што ад гэтага, на яе думку, залежыла, атрымае яна жаданыя долары ці не. Значыцца, ключавое слова ў г. зв. "беларусізацыі" (слоўца-та якое!), як гэта не агідна гучыць, не рупліўства, а ГРОШЫ. Патрыятызм, рупліўства - паняцці выдатныя і высакародныя, але, на вялікі жаль, яны ўсё менш і менш стасуюцца з надыходзячым капіталізмам. Калі шматлікія цёткі ды дзядзькі з Менска, Магілёва, Гомеля ды Баранавічаў зразумеюць, што беларушчына палепшыць іх эканамічны стан, мо тады г. зв. "беларусізацыя", нарэшце, зварухнецца з месца.

Так што, шаноўныя аўтаркі ды аўтары друкаваных патрыятычных усхліпаў - грошы й яшчэ раз грошы. А вашыя опусы пра рупліцаў вартыя хіба таго, каб цёткі на іх усялякія транты раскададалі, не ў крыўду вам сказана. Не верыце? Пайдзіце на беластоцкі рынак і папрасіце ў якой-небудзь гандляркі свежую беларускую газету. Заадно і свой артыкул яшчэ раз перачытаеце. За газету тую вам і pieniądze плаціць не трэба. Цёткі і так дадуць. Бясплатна.

УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА

## ЧАС БЯЖЫЦЬ, НЕ СПЫНЯЕЦЦА

Мікалай Лук'янюк „прапануе" у сваёй нататцы (18 н-р „Нівы") затрымаць час; на жаль, няма нідзе такога мудраца, які ўмеў бы гэта зрабіць. Калі б так сталася, пэўна багатыя жылі б вечна, а ўміралі бы толькі бедныя.

Нататка М. Лук'янюка — гэта крытыка сучасных улад у Польшчы і жаль па камуне. Прыйшоў ёй каюк — сканала яна ад старасці, пражыўшы 75 гадоў. У Польшчы сталася гэта мірна, нікому нават волас з галавы не зляцеў; не так, як у былой Югаславіі, ці ў паўднёвых рэспубліках былога СССР. У іншым артыкуле М. Лук'янюк закідае цяперашнім уладам марнатраўства і негаспадарнасць на прыкладзе перайменавання вуліц у гарадах. Большасць гэтых вуліц атрымала свае даўнія назвы. Пры нагодзе хочацца спытаць аўтара: якім коштам адбывалася адразу пасля вайны перамена назваў вуліц камуністамі? Тады аб гэтым нельга было і слова піснуць, бо недалёка Сталінгруда (так некалькі гадоў называліся Катавіцы) знаходзіліся „курорты" для занадта цікавых — шахты. А колькі каштавала галоднай, бальшавіцкай Расі перамена назваў не толькі большасці вуліц, але і многіх гарадоў? Папраўдзе, большасці людзей абыякава, чыімі імёнамі названы вуліцы іхніх гарадоў; галоўнае — каб было лёгка запомніць і вымаўляць. Вось, напрыклад, у Дубічах-Царкоўных жыхары адну вуліцу з радасцю назвалі б Сталін, а другую — Ленін.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК



## ПОЛЬСКІ СПІРТ

Некалькі тыдняў таму прачытаў я ў "Ніве" артыкул Міколы Ваўранюка пра польскі спірт. Перачытаў я яго некалькі разоў і моцна задумаўся. Аўтар артыкула, на маю думку, вельмі добры журналіст, піша сумленна, крытыкаваць не баіцца, а калі спатрэбіцца, то і бобу дасць здорава. Але пра польскі спірт няма чаго ўжо болей пісаць: гарэльні ж наладзілі "чырвоныя" і прадукавалі яны "чырвоны" спірт, які цяперашняй нашай дзяржаве не да колеру. Лепей жа, калі розныя аферысты напрывозяць таннейшы нямецкі "рояль" ці "гаспадзін"; што каго абыходзіць тое, што на нашых базарах прадаюць атруту! Танны, моцна бярэ і доўга трымае. Ходзяць і бачаць усё гэта ахоўнікі парадку, але і ім час ад часу хочацца танна пахмяліцца; нічога ў гэтым дрэннага - яны ж таксама павінны адпачыць. Давайце і мы больш не будзем купляць польскі спірт, а пяройдзем на "пшеничный пищевой" - добры ж ён і намнога таннейшы!

МІКОЛА ЛУК'ЯНЮК

## ГРАБАРКА - МАЙ'93

З 14 да 16 мая 1993 г. праходзіла чарговае, XIV Паломніцтва праваслаўнай моладзі на Святую Гару Грабарку.

Для часткі ўдзельнікаў пілігрымка пачалася каля 14 гадзіны ў пятніцу з выезду цягніка з Беластока ў Седльцы, з якога на прыпынку ў Сычах выгрузілася 80-90 працэнтаў пасажыраў. У цягніку з дадатковымі трыма вагонамі было людна. Моладзь спявала рэлігійныя і народныя, у тым ліку і беларускія, песні. На жаль, з паводзінаў некаторых пасажыраў можна было меркаваць, што частка моладзі сваю паездку трактавала як нейкую турыстычную пуцёўку, а не як паломніцтва. Не было б бяды, калі б яны вялі сябе стрымана. Але там, дзе знойдзецца хаця б крышынка святасці, неадкладна з'яўляецца сатана. Злы дух стараецца намяшаць і расхваляваць тых, хто прыбыў сюды з мэтай духоўнага ўзбагачэння. Барацьба дабра са злом працягваецца ад пачатку чалавецтва і, здаецца, што ў наш час яна ўзмацняецца, бо як жа можна растлумачыць факт, што некаторыя асобы, ведаючы пра малітоўны характар паломніцтва, ставяць непадалёку Святой Гары палаткі і п'юць там гарэлку, слухаюць рок-музыку і спяваюць, а хутчэй за ўсё равуць на ўсю глотку. Чыняць яны такое ў час Літургіі і іншых набажэнстваў. І нельга ім у гэтым перашкодзіць, бо знаходзяцца яны па-за тэрыторыяй манастыра! Тэарэтычна можна было б пасласць "карную экспедыцыю" ў навакольныя пералескі, але гэта было б не па-хрысціянску. Астаецца нам толькі цярпліваць, стрыманасць і малітва, таксама за тых, хто на "другім баку".

Малітоўнае паломніцтва пачалося традыцыйна - вячэрняй і пасвячэннем вады ў крыніцы. На Гару ўсё яшчэ прыбывалі групы моладзі, якія ставілі палаткі на вызначаным полі. Пасля вячэры маладыя паломнікі паставілі каля царквы крыж - сімвал нашага збаўлення. Удзельнікі маладзёжных паломніцтваў паставілі ўжо звыш 20 крыжоў, у большасці вялікіх, некалькіметровых. Ноччу служылася паніхіда на магілах папярэдняй ігуменні матушкі Варвары і архіепіскапа Аляксея, затым былі акафіст, споведзь і вячэрняя малітвы.

Другі - галоўны - дзень паломніцтва пачаўся Літургіяй, якую служылі архіепіскап Сава і епіскап Іерэмія. Афіцыйная ўрачыстасць адкрыцця паломніцтва пачалася каля 11 гадзіны. Сярод замежных гасцей былі маладыя праваслаўныя пілігрымы з Партугаліі, Эстоніі, Беларусі, Расіі, Венгрыі і Шатландыі. У далейшым паломнікі сустракаліся ў групах, дзеля абмеркавання канкрэтных тэм і спатКання з епіскапам Іерэміем.

Вечарам адбылася сустрэча пры вогнішчы. Пачалася яна літарарурна-музычным мантажом, падрыхтаваным моладдзю з БАСу, ЗБМу і Брацтва пад кірункам Дароты Кузьміч і Дарафея Фёніка. Потым выступілі госці з Партугаліі, Эстоніі і Расіі, а затым усе разам спявалі беларускія, лэмкаўскія, украінскія і рускія песні. Нехта заспяваў сербскую песню ў знак салідарнасці з сербамі, якія з прычыны вайны не змаглі прыехаць на Грабарку. Вячэрняя сустрэча закончылася малітвай. Ноч таксама прайшла ў малітвах. Вячэрня, палуношніца, ютрань і вячэрнія малітвы скончыліся а першай ночы. Хто не быў у споведзі ў пятніцу, мог зрабіць гэта ў суботу. Для многіх тая ноч сталася вельмі кароткай, бо ўжо а 6-тай пачалася Літургія. У пропаведзі а. Лявонцій Тафілюк з Бельска-Падляшскага, духоўны апякун Брацтва, сказаў, што трэба дзякаваць Богу за магчымасць чарговай сустрэчы на Святой Гары Грабарцы і маліцца, каб у будучым больш людзей прыязджала на нашыя сустрэчы як на паломніцтва, а не як на піянерскі злёт.

XIV Паломніцтва на Св. Гару Грабарку закончылася Літургіяй, якую служыў епіскап Іерэмія. Пасля абеду і кароткага падвядзення вынікаў пілігрымкі, яе ўдзельнікі развіталіся з надзеяй сустрэцца праз год.

**С.Н.**



## 7-я НЯДЗЕЛЯ ПАСЛЯ ВЯЛІКАДНЯ

Закончыўся ўзнёслы пасхальны перыяд і вось, 7-я нядзеля пасля Вялікадня, паміж двума святамі Узнясення і Пяцідзесятніцы, якая прысвячаецца Святым Айцам. У гэты дзень Царква ўшаноўвае памяць выдатных свяціцелей, іерархаў і тэолагаў, якія сфармавалі і дагматычна замацавалі на сямі Усяленскіх Саборах хрысціянскую навуку. Гэта такія людзі, як Св. Ірыней, Кірыла Александрыйскі, Рыгор Тэолаг, Васіль Вялікі, Іаан Дамаскін, Рыгор Палама і многія іншыя. Сярод ерасяў і спрэчак, яны абаранілі тэалагічную Праўду пра Святую Тройцу, аснову хрысціянскай веры і аснову хрысціянскай еднасці.

Да памяці Святых Айцоў дапасаванае евангельскае чытанне з 17-га раздзела Евангелля паводле Іаана. Гэта ўрывак так званай „першасвятарскай малітвы" Хрыста. „Ойча, — чытаем у Евангеллі, — словы якія Ты даў Мне, Я аддаў ім, і яны прынялі і сапраўды зразумелі, што Я ад Цябе зышоў, і паверылі, што Ты мяне паслаў... Захавай іх у імя Тваё... каб яны былі адно, як і мы" (Іаан. 17, 8-11).

У сваёй малітве Хрыстос ускладае на вучняў абавязак захаваць „слова Ягонае", пазнаць Бога і пашырыць веру ў „адзінага праўдзівага Бога і Хрыста, якога Ён паслаў" (там жа, верш 3-6). Місіянерства з'яўляецца абавязкам не толькі святароў, але кожнага свецкага верніка, які ўсемагчымымі спосабамі, асабістым прыкладам, а часам і доказамі, павінен намагацца прыводзіць да веры няверуючых.

Спасылаючыся на Евангелле, хачу сёння прадставіць якраз адзін гэтак званы „тэлеалагічны" доказ існавання Бога. Гэты доказ разглядае свет не толькі як нешта, што існуе і патрабуе вытлумачэння свайго быту, але як нешта суцэльнае, мастацка зладжанае і мэтазгоднае, што паказвае на віноўніка гэтай мэтазгоднасці. Тэлеалагічны доказ патрабуе прызнання Бога разумнай Істотай, здольнай мэтанакіроўваць і ўпарадкоўваць свет. Некаторыя пярэчаць мэтазгоднасці ўпарадкавання свету, і паказваюць на адмоўныя з'явы: землятрусы, вулканы, град і іншыя катаклізмы. Ёсць людзі, якія прызнаюць выпадковасць і збег акалічнасцяў, і тыя, што адкідаюць наяўнасць свядомасці ў віноўніка мэтазгоднасці свету.

Апалагетыка адказвае на гэта, што часта мы проста не бачым глыбейшага сэнсу некаторых з'яваў або рэчаў. Можам лічыць непатрэбнымі і шкоднымі ўраганы, паводкі, камароў, пацукоў і гэтак далей, аднак гэта толькі наш пункт гледжання. Апалагетыка гаворыць таксама, што ў свеце нішто не выпадковае. Чалавек стварыў тэлефон, аўтамабіль ці гадзіннік не толькі таму, што хацеў і ўмеў, але ўсведамляючы іх мэтазгоднасць і практычнасць. Праўдападабенства, што свет і жыццё ўзніклі выпадкова такое, як тое, што ў выніку выбуху бомбы ў друкарні паўстаў беларуска-кітайскі слоўнік, або наступны нумар „Нівы".

У адказ на непрызнанне ствральніка свету Разумнай Істотай апалагетыка адказвае: „Толькі разумная і свядомая Істота можа быць стваральнікам мэтазгоднага твора". Малпа, зрабіўшы з дубінкі кола, хіба што толькі яго качала б, аднак чалавек выкарыстаў яго каб ездзіць возам. Назіраючы мэтазгоднасць упарадкавання сусвету, мы даходзім да высновы, што абавязкова павінен існаваць свядомы віноўнік гэтага. Ён, безумоўна, валодае розумам, які наперад уяўляе мэтазгоднасць стварэння і ўстаноўленых законаў. Ён таксама мае волю, якая імкнецца ажыццявіць свой план, і сілу, якая ажыццяўляе ідэю ў рэальным быцці свету.

Атэісты і матэрыялісты падкрэсліваюць інстынктыўную, без усведамлення мэты, дзейнасць жывёл. Апалагетыка адказвае, што жывёлы сапраўды не ўсведамляюць мэты свайго дзеяння, аднак паводзіць сябе ўсё такі дзеля нейкай мэты. Можна не ведаць хімічнага складу паветра, аднак дыхаць ім. Чалавек паявіўся на свеце толькі мільён гадоў таму, але свет існаваў і раней. Нехта прадбачыў існаванне чалавека і падрыхтаваў усё неабходнае для ягонага жыцця. Паветраная абалонка вакол зямлі унікальная ва ўсім космасе. Яна дазіруе касмічнае апрамяненне без чаго не было б ніякага жыцця. Адлегласць зямлі ад сонца і месяца ды наклон восі зямлі да экватара ў 23 градусы, — дакладна такія як трэба. Мы нараджаемся дзяцьмі і малако маткі мае ідэальны хімічны склад. Нараджаемся з лёгкімі і знаходзім ўжо гатовыя паветра і ваду, дакладна прыстасаваныя да патрэбаў арганізма. З часам, непазбежна з'яўляюцца хваробы і зноў бачым, што нехта нарыхтаваў зёлкі, грыбы і мінералы, без якіх не было б антыбіётыкаў. Для кожнай чалавечай патрэбы ёсць адпаведнае задавальненне, якое існавала зараней, без чалавечага ўплыву.

Чалавек любіць спасылацца на свой розум, і той жа розум падказвае, што ўсё гэтае можа паходзіць толькі ад Разумнай Істоты, якая прадбачыла і падрыхтавала ўсё неабходнае для свайго стварэння... Такі вось „тэлеалагічны доказ" на існаванне Бога. Царква мае, як відаць, моцныя аргументы, аднак неахвотна карыстаецца імі. Справа ў тым, што Бог не патрабуе абароны з нашага боку. Ён Сам адкрыецца таму, хто вельмі гэтага хоча і хто годны пазнаць Яго. „Знайсці Бога, — пісаў адзін з выдатных айцоў — святы Рыгор з Ніса, — гэта значыць няспынна Яго шукаць; бачыць Бога — гэта значыць ніколі не пераставаць жадаць Яго".

Святыя Айцы, памяць якіх Царква ўшаноўвае ў гэтую нядзелю, былі не столькі эрудытамі і літаратарамі, колькі аскетамі і святымі. Яны сфармулявалі догматы веры, перажыўшы іх унутры, праз малітву і самаачышчэнне ў адпаведнасці са словамі: „шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны пабачаць Бога". Вось таму іхнае сведчанне мае больш аўтарытэт за любыя доказы.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

## ЮР'ЕЎ ДЗЕНЬ У КЛЯШЧЭЛЯХ

Чытачы цыкла „Горад Кляшчэлі", які нядаўна друкаваўся ў „Ніве", пэўна звярнулі ўвагу на тое, што ў Кляшчэлях апрача Успенскай царквы, былі раней яшчэ Мікалаеўскі і Юр'еўскі храмы. Пратрывалі яны некалькі стагоддзяў і толькі наш „цывілізаваны" век прынёс іх знішчэнне. Мікалаеўскі храм быў разбураны ў першыя дні І сусветнай вайны, Юр'еўскі — у той жа час прызначылі пад канюшню. Дапаўненнем гэтых няшчасцяў быў пажар вуліцы Касцельнай у 1924 г., калі старажытны Юр'еўскі храм поўнасцю згарэў. З трох праваслаўных храмаў у Кляшчэлях уцалеў толькі адзін.

Памяць аб трох храмах жыве ў свядомасці кляшчэлеўцаў да сёння. Сведчаннем таму з'яўляюцца перад усім царкоўна-рэлігійныя ўрачыстасці, якія адбываюцца тут штогод у дзень св. Вялікамучаніка Юрыя Пераможца (6 мая) ды ў дзень св. Мікалая Цудатворца (22 мая). Першае свята адметнае сваёй непаўторнасцю.

Пачынаецца яно багаслужбамі ва Успенскім храме. Пасля Літургіі хрэсны ход, падаецца на „цэрквіска" Юр'еўскага храма... Наперадзе ідуць прыслужнікі з крыжамі і іконай Уваскрасення Хрыстовага, за імі — шнурочак дзетак (на здымку) з маленькімі харугвамі і іконкамі на руках, побач іх — прадшкольныя выхавацелькі. Затым ідуць дзяўчаты, якія нясуць вынасную ікону св. Юрыя са старога храма, хор і святары спяваюць пасхальныя сціхіры. І мора... мора людзей, якія спакойна ідуць па кляшчэлеўскіх вуліцах.

Хрэсны ход уваходзіць на „цэрквіска", што знаходзіцца ў вялікай пашане вернікаў. Абрысы храма абнесены камянямі. З трох бакоў даўняй царквы пастаўлены крыжы. Тут служыцца малебен Вялікамучаніку Юрыю. Айцец Мікалай Келбашэўскі дзякуе ўсім удзельнікам свята, выказвае надзею, што і праз год будзе яно не менш урачыстае. Належнае трэба было б тут аддаць самому а. Мікалаю, дзякуючы якому гэтая своеасаблівая дэманстрацыя веры і прывязанасці да традыцыі набыла такі непаўторны выгляд.

**МІКОЛА САХАРЭВІЧ**
**Фота аўтара**



## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

Арганізацыяй беларускай асветы (і не толькі школьнай) у міжваенны перыяд у II Рэчыпаспалітай займалася Таварыства беларускай школы. ТБШ было створана ў Вільні ў 1921 г. з мэтай арганізацыі беларускіх пачатковых і сярэдніх школ, дакладаў для беларускага асяроддзя, бібліятэк, аматарскіх тэатральных і музычных калектываў. Найбольш актыўную дзейнасць Таварыства праводзіла ў час Грамады (1926-1927). У ліпені 1926 г. арганізацыя налічвала 3,5 тысячы членаў, распараджалася 35 бібліятэкамі і каля 110 аматарскімі калектывамі. У 1927 г. дзеячы Таварыства сабралі 25 тысяч заявак, у якіх бацькі дамагаліся навучання дзяцей беларускай мове ў навучальных установах.

Большасць дзеячоў ТБШ было таксама актывістамі Грамады. Арышты грамадоўцаў у 1927 г. вельмі некарысна паўплывалі на актыўнасць Таварыства. У выніку дэлегалізацыі Грамады пачалася барацьба за кантроль над ТБШ — найбольш магутнай у той час беларускай арганізацыяй у II Рэчыпаспалітай. Змаганне ішло за тое, якой арганізацыяй быць Таварыству. Нелегальная камуністычная партыя Заходняй Беларусі імкнулася перанязь структуры ТБШ і выкарыстоўваць іх дзеля сваіх палітычных мэтаў. З другога боку, некамуністычныя дзеячы стараліся абмежаваць дзейнасць ТБШ толькі да статутовай дзейнасці. У тэрыторыі кантроль над гурткамі Таварыства пераймалі камуністы, у гарадах прыхільнікі арганічнай дзейнасці членаў гэтай арганізацыі. Там, дзе структуры ТБШ апынуліся ў руках дзеячоў КПЗБ улада вельмі хутка спыняла дзейнасць гурткоў і аддзелаў.

У канцы снежня 1928 г. меў адбыцца з'езд ТБШ, на які аднак улады ў апошняй хвіліне не далі дазволу з увагі на ўзрастаючыя ўплывы ў яго структурах членаў КПЗБ. Прапаганда гэтай партыі прыхільнікаў арганічнай працы, а асабліва Антона Луцкевіча і Радаслава Астроўскага, называла „здраднікамі", „фашыстамі", „паланафіламі", „слугамі польскіх памешчыкаў".

На пачатку 1929 г. А. Луцкевічу і Р. Астроўскаму ўдалося пазбыцца з уладаў арганізацыі палітычных радыкалаў і ў ліпені г.г давесці да з'езду. З'езд забараніў выкарыстоўваць Таварыства ў палітычных мэтах. У палове 1929 г. ТБШ налічвала 10 тысяч членаў і распараджалася 250 бібліятэкамі. Але гэта быў апошні год развіцця Таварыства. Пабольшвалася колькасць гурткоў і аддзелаў ліквідаваных уладамі, якія, як зручную прычыну выкарыстоўвалі прысутнасць у іх структурах членаў КПЗБ.

На Беласточчыне, дзе законам было забаронена ствараць беларускія школы, ТБШ адыгрывала спецыфічную ролю. Большасць дзеячоў разумела, што ў такой сітуацыі толькі іх арганізацыя можа рознымі метадамі праводзіць нацыянальную адукацыю грамадства. Таму з вялікай заўзятасцю баранілі тут яны статутовыя прынцыпы дзейнасці. Актывісты Таварыства пачалі з гаспадарчай дзейнасці, арганізуючы сродкі на памяшканні і іншыя патрэбы. Неўзабаве, у канцы 1927 г. існаваў ўжо хор, тэатр, дэкламатарскія і літаратурныя групы. Хор і тэатр ездзілі па ўсёй Беласточчыне, зарабляючы такім чынам грошы на далейшую дзейнасць Таварыства. Як успамінаў калісь Кастусь Сідаровіч „тут і там чулася, што беларускі тэатр пагражае бяспечнасці польскай дзяржавы, але да 1932 г. дзейнасць ТБШ вялася без спецыяльных перашкодаў".

У снежні 1929 г. беластоцкі аддзел Таварыства налічваў 526 членаў. Была тут свая кнігарня і філіял віленскага Беларускага банка. Каб не даць уладам прычыны інгерыраваць у справы арганізацыі, памяркоўныя дзеячы — Шыман Кузміч, Кастусь Сідаровіч, Антон Кавальчук і Аляксандр Андраюк не дапускалі камуністаў да ўдзелу ў працах аддзела. У Гродне Піліп Кізевіч таксама стараўся захаваць непалітычны характар арганізацыі. Толькі такім чынам улады маглі талераваць існаванне ТБШ. На пачатку 1932 г. толькі беластоцкі і гродзенскі аддзелы праводзілі нейкую дзейнасць. Вясной г. г. паліцыя дашукалася сярод членаў управы Беластоцкага аддзела ТБШ нейкага Зялінскага, быццам бы агента Камінтэрна. Не ведаю, чыя гэта была правакацыя — паліцыі ці камуністаў — аднак у яе выніку на пачатак забралі ў Таварыства памяшканне і сядзібу. Праз наступных 3 гады ўлады зліквідавалі яго канчаткова. У снежні 1935 г. гарадскі суд у Беластоку забараніў далейшую дзейнасць і выкрасліў ТБШ з ліку легальных арганізацый.

У лютым 1933 г. перад судом у Вільні былі пастаўлены члены Галоўнага праўлення ТБШ — Стацкевіч, Пяткевіч, Шырма. Абвінавацілі іх у антыдзяржаўнай дзейнасці, аднак нічога не маглі ім даказаць. Фармальна арганізацыя існавала яшчэ да снежня 1936 г., калі віленскім судом былі зліквідаваны яе цэнтральныя структуры. Легальным асталася існаваць толькі Таварыства праваслаўных палякаў. Дзейнасць амаль усіх беларускіх арганізацый, нават рашуча антыкамуністычных, была абмежаваная амаль да нуля.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## 40 ГАДОЎ ДЛЯ НАВУКІ

Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта споўнілася 40 гадоў. З гэтай нагоды, спярша ў Казімежоўскім палацы у Варшаве (люты г. г.), а затым і ў Белавежы (май г. г.) была арганізавага выстава дзейнасці і дасягненняў гэтай вядомай не толькі на Беласточчыне навуковай установы.

— За наш пачатак, — гаворыць кіраўнік БГС, праф. Януш Б. Фалінскі, — прымаем 1952 год. Год раней у Белавежскай пушчы Анеля і Уладзіслаў Матушкевічы заклалі пастаянныя назіральныя плошчы для абсервацыі з'яў у жыцці раслін на працягу цэлага года і мікраклімата. Пробныя назіранні пачаліся 5 верасня 1951 г. і працягваліся да канца 1962 г. Пастаяннна займаліся гэтым У. Вайцюк, С. Бароўскі, М. Дамброўскі, А. Сакалоўскі (зараз кіраўнік іншай белавежскай навуковай лабараторыі), ну і я. Гэтая серыя прадрашыла асноўны накірунак далейшых даследаванняў Станцыі. Цяпер мы займаемся аднаўленнем (дынамікай) раслінnасці і групаў раслін у натуральным краявідзе.

— У 1952 г., — працягвае прафесар, — У. Матушкевіч апублікаваў манаграфію аб раслінасці Белавежскага нацыянальнага парку, з картай размяшчэння лясных згуртаванняў. 16 студзеня 1959 г. Інстытут батанікі ПАН у Кракаве афіцыйна стварыў Геабатанічную станцыю ў Белавежы. У гэтым жа годзе мы распачалі новы накірунак даследаванняў у Станцыі і Белавежскай пушчы — заняліся аналізам раслінасці лясных дарог, а затым — з'явай пранікнення чужых відаў у натуральныя згуртаванні і фармавання гэтых відаў сярод ляснога комплексу. Год 1961 прынёс першыя доктарскія дысертацыі — маю і А. Сакалоўскага.

З 1962 г. Станцыя належыць Варшаўскаму універсітэту. У гэтым жа годзе паявілася першая навуковая публікацыя — вынік некалькігадовых назіранняў на пастаянных плошчах таўшчыні снежнага покрыва і глыбіні замярзання глебы ў нацыянальным парку. У 1963 г. пачалася новая серыя феналагічных назіранняў, з фатаграфічнай рэгістрацыяй, стварылася таксама міждзяржаўная біялагічная праграма. У наступным годзе на Станцыі была створана лабараторыя картаграфіі раслінасці — першая ў Польшчы.

Першая публічная абарона дысертацыі працаўніка Станцыі (Я. Б. Фалінскага) адбылася ў 1966 г. Яна пацвердзіла асаблівую каштоўнасць Белавежскай пушчы як аб'екта даследаванняў. Год пазней Станцыя атрымала сённяшнюю назву і статус аддзялення Біялагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта.

У 1968 г. у БГС пачалі мы даследаваць дэмаграфію раслін. Стварылі мы тады новы даследчы аб'ект — луг „Рэскі", што мяжуе з Белавежскай пушчай. Адбылася таксама серыя агульнапольскіх семінараў. І яшчэ два важныя факты з таго ж года: выйшла папулярна-навуковая праца падрыхтавана ў БГС — „Нацыянальны парк у Белавежскай пушчы" і першае выданне турыстычнай карты пушчы (усіх выданняў назбіралася дагэтуль чатыры).

У 1971 г. пачаліся даследаванні паваленых дрэваў у лесе, а таксама шматгадовыя даследаванні ядлоўца, вербаў і асін у новым аб'екце — Ялянцы.

Юбілей дваццацігоддзя БГС упрыгожвае ўласнае выданне „Фітацэнозіс". Важнымі таксама з'яўляюцца гады 1973-74, калі будуецца для Станцыі будынак па вул. Спартовай 19. Ён стварыў аптымальныя ўмовы для развіцця навуковай дзейнасці, краёвага і замежнага супрацоўніцтва, дыдактычнай дзейнасці і падрыхтоўкі складаў. Крыстына Фалінска дае пачатак рэгулярным магістэрскім і доктарскім семінарам, студэнцкім прыктыкаванням і настаўніцкім курсам па біялогіі. У 1975 г. у БГС стажыруецца Марці Рыйкен з Галандыі, даючы пачатак стажыроўкам іншых замежных студэнтаў і маладых навукоўцаў.

У 1978 г. пачаліся шматгадовыя даследаванні вадасховішча Семяноўка і яго ўздзеяння на раслінасць пушчы. Праз пяць гадоў правёўся ў белавежскіх нетрах міждзяржаўны картаграфічны эксперымент з цікавымі вынікамі, у якім удзельнічалі навуковыя групы з Італіі, Галандыі, Францыі, Чэхаславакіі і Польшчы. У 1984 г. БГС наладжвае польска-італьянскія геабатанічныя даследаванні раслінасці у Гаргано (Італія), а пяць гадоў пазней — штогадовыя польска-італьянска-рускія даследаванні ў сібірскай тайзе. А калі ўжо гутарка пра замежныя даследаванні, то трэба яшчэ ўспомніць і працы (з 1979 г.), што вядуцца на пушчы Бугац у Венгрыі. У Польшчы БГС супрацоўнічае з каля 20 навуковымі ўстановамі.

— У гадах 1952-1992, — падсумоўвае праф. Я. Б. Фалінскі, — мы апублікавалі звыш 260 працаў, у гэтым: пяць манаграфій (дзве за граніцай), адзін трохтомны падручнік для ВНУ, дзве папулярна-навуковыя кніжкі, 30 геабатанічных картаў і 15 інтэрпрэтаваных стэрэаграмаў. БГС распараджаецца шматлікімі ўласнымі майстэрнямі, дыдактычнымі заламі, бібліятэкай, навуковым архівам, эксперыментальным агародам, пакоямі для гасцей і студэнцкай бурсай. Стварыла таксама свой гербарый, які налічвае звыш 24 тысяч лістоў.

**ПЁТР БАЙКО**

## РАСКАЗ ЛАЎРЭАТКІ

Вучаніца Гайнаўскага беларускага ліцэя заняла ў прадметнай алімпіядзе па беларускай мове трэцяе месца. Вось што яна пра гэта піша:

IX Рэспубліканская алімпіяда па беларускай мове праводзілася ў днях 22-24 сакавіка ў Гомелі. Алімпіяда складалася з трох частак: лінгвістычнага конкурсу, водгуку на літаратурны твор і дыктоўкі, у якой было ці не больш косак, чым слоў (галоўная прычына памылак), а таксама вусных выказванняў. Як мне вядома, яны адбываліся ў розных формах: удзельнікі чыталі ўласныя вершы і паэмы, спявалі песні, а былі і такія, якія да гэтай тэмы падышлі вельмі сур'ёзна і надалі сваім выступленнем надзвычай узнёслы тон.

Ад алімпіяды засталіся ў мяне прыемныя ўражанні, мабыць, не без значэння было тое, што ўзяла я трэцяе месца. Але, на маё адчуванне, мелі ўплыў таксама іншыя фактары. У Гародні, а потым ў Гомелі нашую групу (тры дзяўчыны з Гайнаўкі і чатыры з Бельска) сустрэлі вельмі цёпла, з адкрытымі рукамі. Так, што мы адчулі сябе сапраўды як на радзіме, сярод землякоў-беларусаў. Вялікі дзякуй арганізатарам за стварэнне такой сямейнай шчырай атмасферы. Хаця



дух спаборніцтва быў надзвычайны, не перашкодзіў ён сяброўскім адносінам паміж удзельнікамі алімпіяды.

Зразумела, што большасць маіх новых сяброў у Беларусі гэта хлопцы; абяцалі мы сабе, што будзем сябраваць доўга.

Аднак, апрача добрых успамінаў, конкурс пакінуў у мяне нейкі асадак незадаволенасці, выкліканы фактам, што чамусьці супольна з алімпіядай па беларускай мове (мове народа і дзяржавы) праходзіла алімпіяда па мове суседа — рускай. З гэтай прычыны мы навокал сябе чулі пераважна размовы па-руску. Нават на запазнаўчай вечарыне амаль усе яе ўдзельнікі падрыхтавалі свае мастацкія часткі на рускай мове. Беларускія песні, якія праспявала наша група, выклікалі ў многіх прысутных слёзы ў вачах.

Незразумелым для мяне здавалася таксама тое, што ўдзельнікі алімпіяды, якія перад журы выказвалі сваю палымяную любоў да радзімы і роднай мовы, за дзвярыма пачыналі адразу гаварыць па-расейску.

Але, нягледзячы на гэтыя недахопы, застануцца ў мяне, усё ж такі, як я ўжо зазначыла, прыемныя ўспаміны. Бо ці ж можна кепска ўспамінаць гарадзенскі булёнчык і сёмы паверх інтэрната ПТВ з ліфтам, які ездзіў толькі на чацвёрты паверх.

Карыстаючыся нагодай, хачу шчыра падзякаваць нашым настаўнікам, якія так добра падрыхтавалі мяне і маіх сяброўак да алімпіяды. Вялікі дзякуй прафесару Васілю Сакоўскаму, з якім мы салідна „шчоўкалі" родную мову і літаратуру на ўроках, ды прафесару Аляксею Марозу, які таксама многа з намі папрацаваў і падтрымліваў дух барацьбы ў час алімпіяды.

**АНЯ АЎЛАСЮК,**
**кл.III „A"**
**Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы**
**фота М. Ваўранюка**

P. S. У алімпіядзе ад нас прынялі ўдзел таксама: Яніна Кандрацюк (11 месца) і Эва Ляўчук (13 месца) з гайнаўскага ліцэя ды Мажэна Паўлючук (15-ая), Анна Барана (17-ая), Анэта Гаўрылюк (19-ая) і Яланта Манаховіч (20-ая) з Бельска.

Прынагодныя разважанні

## ЧАТЫРЫСТА! ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ?

Дагэтуль "Ніва" змясціла чатырыста нумароў "Літаратурнай старонкі "Белавежы". Калі памятаць, што "Старонка" з'яўляецца адзін раз у месяц, дык лёгка падлічыць, як даўно ўжо. За трэціну стагоддзя апублікавана ў ёй тысячы вершаў, сотні апавяданняў, літаратурна-крытычных артыкулаў. На працягу шэрагу мастацкіх ды грамадска-палітычных эпохаў. Пакажыце мне другое, так стабільнае, прычасопіснае выданне параўнаўча невялікага па ліку творчага асяроддзя!

Тайніца гэтага унікальнага даўгавечча на вягляд як бы ясная: нацыянальны характар ініцыятывы ў небеларускім атачэнні. Тым не менш магла ж "Старонка" няраз заняпасці, адысці ў краіну ценяў. Бывалі крызісы, багатыя і бедныя матэрыяламі гады або перыяды. Аднак рэгулярна паказвалася яна на свет Божы.

Самой бруістай крыніцай, ля якое набіралася мацаты "Літаратурная старонка "Белавежы", аказалася плеяда талентаў агульнанацыянальнага фармату. Падалі яны ўласны, непаўторны, голас не адразу. Гэта быў творчы працэс, які, звазвычай, адбываецца дзесяцігоддзямі.

Вобразна кажучы, літартурнае жыццё - нібы лес, у якім растуць не адны гонкія елкі ды шумлівыя хвоі, але і маладняк, размаітае кустоўе падлеску. Ва ўзаемнай гармоніі, патрэбнасці адно аднаму. Ніхто не вырастае адзінока, акрамя дзічкі на мяжы... Не пабачылі б мы высозных дрэваў без акружаючых іх ніжэйшых і гушчавіны мікраклімату.

На палосах "Старонкі" заявіла пра сваё існаванне блізу сотня аўтараў. Давайце супаставім гэту прыблізную лічбу з колькасцю вёсак і мястэчак, у якіх пражываюць тут беларусы. І наступным парадкам параўнаем тое з падобнымі дадзенымі ў літаратурным жыцці, скажам, палякаў або расейцаў. Здзівімся! - больш паэтычнага за нас народу не знайсці ў Еўропе.

Псіхалагічны феномен або і загадка? Развязку трэба шукаць у механізмах законаў нацыянальнага абуджэння. Кожны народ нараджаецца перш як паэт і толькі пасля набывае формы нармальнага быту нацыі. Учарашнія лірыкі у нас сённячы парабіліся гешэфтнымі фірмачамі, інжынерамі, медыкамі, фермерамі, палітыкамі, транскантынентальнымі бізнесменамі. Праўда, не ўсе да апошняга. Тыя, хто надалей не мог не пісаць, пачалі рабіць тое штораз лепей. Значыцца, іх талент паказаў сябе несезонный з'яваю, не маладым усяго - вершаскладальным - захапленнем пачуццямі і думкамі. Гэта натуральнае, як свет светам.

Ёсць мастацкая існасць: калі чалавек сапраўды адораны літаратурным талентам, ён не ўтрывае, каб не пісаць! Рызыкі графаманіі на Парнасе не існуе, бо творчасць не бывае без пакутаў, ахвяраў, драмы і трагедыі, абсалютна непасільных закаханаму ў самога сабе графаману, асобе ўвыклай гладка і смачна жыць. У гісторыі вялікай літаратуры не адшукаем шчаслівых пісьменнікаў.

Чуюцца папрокі ў адрас Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", што яно цяперашнім часам захілела, скурчылася, сохне... Рацыі ў іх знаходзяцца, але, аднак, усё ж другарадныя. "Белавежа" ў сваіх пачатках і "Белавежа" сённяшнім днём - гэта як той мужчына, які ўжо няшмат памятае пра свае васемнаццаць гадоў. Звярніце ўвагу на тадышнія дэбюты: рэдка які аўтар не палічыў найпершым абавязкам даслаць у рэдакцыю верш тыпу "Я беларус!"

Беларуская літаратура ў Беластоцкім краі перастае выконваць публіцыстычныя функцыі ідэалагічнай экспрэсіі ў адраджэнні нацыі, ёй неяк дазволенымі тады гістарычнымі абставінамі. Наша культурна-грамадская меншыня выходзіць, нарэшце, у сацыяльна-палітычную камплектнасць, характэрную сумежным народам. І таму ейныя літаратары вяртаюцца цалкам у мастацтва, якое заўсёды кепска пераносіла на сваім гарбу ідэйны прымат. Гімны роднаму слову яшчэ пажаданыя, на жаль, але не яны даюць апастальскі ярлык у браму векавечнасці.

Інтэранцыянальны бальшавізм ці бо нацыянальны - аднолькава атрутныя ў культуры. Самагубныя па-манапольнаму. Удушлівы ён. Няма і не можа быць слушна або няслушна створаных вершаў ці апавяданняў. Падзяляюцца яны толькі на напісаныя па-мастацку, г. зн. з пачуццём слова і праўды аб чалавеку, і на тыя іншыя, бяздарныя, без культуры фразы, надуманыя, махлярскія, сяк-так зляпаныя, без іскаркі хаця б нейкай небанальнай думкі, погляду... Вось не інакш.

Дзякуючы злому няшчаснага мінулага, творчыя працэсы ў асяроддзі "Белавежы" маюць шанцы на г. зв. другое дыханне. Калі ж не зусім так здарыцца, дык па віне тае ж слабасці, якая панура спадарожнічае ўсяму лёсу нашага літаратурнага аб'яднання, а менавіта - мізэрнага развіцця крытычных аналізаў. Гэта асобны жанр, якому патрэбна спецыфічная таленавітасць. Добры паэт далёка не заўсёды бывае гэтак жа добрым аналітыкам і ацэннікам паэзіі, як і празаік - прозы. Літаратурны працэс без прысутнай у ім літаратурнай крытыкі будзе разгортвацца па-інваліднаму марудна і хваравіта, хіла. Мы занадта не разумеем сутнасці такое крытыкі, успрымаючы яе на газетны манер, пераважна скандальна. Дамінуе павярхоўшчына, недачытанасць, культурная паўпісьменнасць, некампетэнтнасць у прадмеце вопісу. Журналісцкая надзённасць. Гэта наша бяда, што можам без нацяжак пахваліцца арэапагам знакамітых аўтараў-"белавежцаў" і, адначасова, аніводным літаратурным крытыкам у сябе.

Гэтая канстатацыя тым мацней істотная, што відавочным чынам змяняецца персанальна-арганізацыйная структура самога асяроддзя людзей па пяру. Канчаецца сітуацыя адзінасці "Белавежы", узнікаюць паралельныя ёй магчымасці самарэалізацыі ў друку. Самвыдаты, але і эдытарскі мецэнат з боку новых часопісаў. Ва ўмовах адсутнасці глыбокай і аўтарытэтнай крытыкі як галоўнага фактара, які стымулюе творчы рост наогул, пагражае працяглая стагнацыя. Карыстаючыся параўнаннямі з галіны спорту, каб выказацца коратка і максімальна зразумела, - пабойваюся я распаду ў нас на сярэдненькі ўэтэмпах пелетон і вельмі аддаленую ад яго наперадзе жменьку лідэраў, якіх нікому ні дагнаць, ні перагнаць... Замест спаборніцтва, ахінае прэтэндэнтаў знеахвочанасць.

Суцяшае сама прырода таленту як нечага самадастатковага. Аднак жа не дарэшты. Таленавітыя адзінкі нараджаюцца безупынна ва ўсіх народаў, але дасягаюць свайго апагею ў тым старонні, у якім пульсуе культура.

САКРАТ ЯНОВІЧ

*ВІКТАР ШВЕД*

### СТАРЫ САД

З бацькам мы дрэўцы садзілі
Гадоў паўстагоддзя назад.
Гады адплылі, быццам хваля
І састарэўся наш сад.

Калі заглянуў я з дарогі
Сюды, даўні тут гаспадар,
Мне яблык з галіны пад ногі
Упаў, як удзячнасці дар.

Каторы ўжо раз спеліць восень
Духмяныя ў садзе плады...
Пад кронамі дрэў мне здалося
Што я тут ізноў малады.

Бацькоў смерць забрала руплівых
І састарэўся мой брат.
І з пошумам нейкім тужлівым
Спакойна ўмірае наш сад.

*АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК*

* * *

у загалоўку
добрая
беларусь
у загалоўку
прагная
беларусь
я вярнусь
да цябе
праклятая
беларусь

*П.-Б. ШЭЛІ*

### ФІЛАСОФІЯ КАХАННЯ

Крыніцы зыходзяцца з ручаямі,
А ручайкі цякуць далей.
Вятры страчаюцца начамі,
Каб як абняцца найхутчэй.

Няма на свеце адзіноцтва,
Такі закон прысуджан нам.
Якое ж страшнае прароцтва,
Што толькі я ўсё сам ды сам.

Глянь, як цалуюць хмары неба,
А хвалі абымаюцца ўзапар,
І кветачкі ўбачыць трэба -
Іх столькі закаханых пар!

А сонейка ласкае зямлю
І пацалункі шле ў мора.
І я нарэшце ўжо кемлю,
Што жыць мне без цябе -
беда ды гора.

*Пераклаў з ангельскай АНДРЭЙ МАРОЗ*

*ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ*

### ГАЛЯ

Набліжалася першая вясновая навальніца. Сны здаравелі, вызваляючыся з-пад зімовых пярынаў. Вёска ляніва пацягвалася пасля першага грому.

Пасля навальніцы дзяўчаты адчынялі наўсцяж вокны. Шчабяталі ў іх герані. З радыёпрыёмнікаў лілася песня пра надыходзячае лета.

Да Галі Налівайка прехаў на шведскай машыне Міхась з Ахрымоў. Еўрапейскі стыль - раскошна смакавалі дзяўчаты. Потым, пры незаслоненых вокнах, пілі каляровую гарэлку; Галя па-святочнаму смяялася, дзёўбаючы відэдцам яечню са скваркамі. Яна з адданасцю глядзела на Міхася. Звонкая мілагучная музыка шалела ў іх на ўсю вёску.

Міхась узяў і паехаў да другой.

З таго часу Галя вечарамі хадзіла на луг ірваць лотаці. А калі перацвілі, выехала яна ў горад.

- Вельмі ж мусіць быць важная, - гаварылі пра яе. - Зараз ходзіць па станцыйным пероне, а які бляск ідзе ад яе, ззяе, аж такая фарсунка!.. Размалёваная...

І зноў была вясна, і цвіла лотаць.

### БАБРЫ

Быў летні надвечар: ціха, вельмі прыемна, і нават не надакучалі камары. Ад ракі патыхала водарасцямі. Я сядзеў на стромкім беразе, увітым лазовым хмызам.

Неўзабаве штосьці зацялёпкала па гразі і зараз жа я пачуў, як заскрыгалі бабровыя разцы. Зусім блізка заўважыў бурага бабра з рахманай пыскай, з цёмна-каштанаватым адлівам па баках. Ён трымаў у пярэдніх лапках ветку лазы. Крыху пачакаўшы, звярок паплыў да свае хаткі.

Я сядзеў і далей пільна сачыў. Паявіліся адразу два бабры. Адзін з іх няспешна караскаўся на зробленую імі з паленцаў і гразі гаць. Ён насцярожана павярнуўся, варухнуў хвастом-лапатай і чуйна аціх. Нейкі час так і сядзеў непаварушна, тырчэў, нібы корч. Потым плёхнулі яны абодва - ажно ўзгайдалі ваду.

Я назіраў за імі і безгалоса цешыўся.

*ІАГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ*

### НАЧНАЯ ПЕСНЯ ВАНДРОЎНІКА

Ты, што у нябеснай імгле
Крыўду - боль ўвесь сунімаеш
І няшчаснага ўдвайне
Ўдвайне шчасцем напаўняеш, -
Ці ж вандроўкі гэтай горыч
Зможаш радасцю астудзіць?!
Супакою слодыч,
Ах, сыдзі у мае грудзі!

*Пераклаў з нямецкай ЮРКА ТРАЧУК*

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# ДОЖДЖ

Кася хадзіла ў другі клас. Усе ведалі, што яна з прызваітай і веруючай сям'і. Кася была заўсёды старанна апранута, а боцікі вешала на вешалку ў класнай шатні, бо насіла іх у спецыяльным мяшочку. Каб не ўкраў хто, ды калі б не схавала іх у мяшочак, хлопцы маглі боцікі і пабрудзіць: часта гулялі ў шатні чым папала, як мячом.

Мала хто ў класе, мо асобы дзветры ўсяго, быў узорным вучнем, а яна была! На ўроках заўсёды ўважна слухала настаўніцу, усё ў пару запісала, усё, што трэба назаўтра, прынесла ў школу. Ніколі нічога не забылася.

Была апошнім, наймалодшым дзіцём у сваіх бацькоў. Душу, відаць было, укладалі ў гэтую малую.

Аднакласнікі з зайздрасцю спаглядалі на Касю, калі мама прыводзіла яе ў школу, а старэйшая сястра забірала пасля заняткаў. Мама тады варыла абед, бо ўсю сябе прысвячала яна дому і дзецям. Тата сам кіраваў сваёй фірмай, а людзей да працы яму не бракавала. На бацькоўскі сход тата з мамай прыязджалі новенькім бліскучым „фордам", хаця ад дома да школы было метраў дзвесце. Ехалі тады навокал і ставілі самаход у самым цэнтры пляца ля школы. Так, каб людзі бачылі, з кім маюць дачыненне.

Кася была найлепшая на ўроках польскай мовы і рэлігіі. Класная настаўніца абагатварала яе. Але і так у дзённічку сяброўкі малая напісала, што найбольш любіць настаўніка фізічнага выхавання.

Што датычыць урокаў рэлігіі, дык Кася пасля іх адчувала сябе яшчэ лепшай за іншых. Вядома, збірала ўсе найлепшыя ацэнкі. Шмат гаварыла пра сваю веру ў Бога, хвалілася перад сяброўкамі шчырасцю і сумленнасцю. Падкрэслівала сваю набожнасць мо нават крыху зачаста.

* * *

Оля была заваражана Касяй. Яе бацькі да рэлігіі ставіліся даволі абыякава. Хадзіла на рэлігію, але мала што там разумела. Вядома, каб яшчэ бацькі ў хаце з ёй пагаварылі... Але што ж, калі ў іх ніколі не было на гэта часу.

Адно Оля вынесла з гэтых навук бясспрэчна: што чалавек веруючы мае быць добры і справядлівы ды павінен кахаць бліжняга як сябе самога. Зрэшты, пра гэта гаварылі і яе бацькі, хаця не спасылаліся ў сваіх размовах на кару Божую.

Оля хацела быць такая, як Кася. Нават хадзіць пачала так, як яна: выкрыўляючы крыху ступні ў сярэдзіну і злёгку згорбіўшыся. Не пасавала ёй гэта. Не мела яшчэ на сабе цяжару вышэйшасці, які насіла ўжо яе дзевяцігадовая сяброўка. Была звычайным дзіцём, бясклопатным і мо не такім дакладным, але яшчэ цешылася дзяцінствам.

Оля даравала Касі ўсё. І тое, што тая пpазывала яе пры ўсіх „таўстуха", і тое, што калісь, яшчэ ў пачатку года, падняла руку і сказала настаўніцы, быццам Оля — манюка, бо не была яна на ніякіх вакацыях у Італіі... Не ведала, дурніца, што ў Олі ў Рыме жыве цётка!

* * *

Зімою дзеці пачалі хадзіць у танцавальную школку. З іх класа было некалькі асоб. Касі ізноў пашанцавала: яе партнёрам быў аднакласнік Адась, сусед з іхнага дома, толькі з наступнага пад'езда. Праўда, хадзіць у клуб было далёка, і Касю падвозілі бацькі, але прыемна было мець партнёрам знаёмага чалавека.

Адась быў вельмі мілым хлопцам. Настаўнікі ў школе неўзабаве заўважылі, што ён закаханы ў Касю. Ніхто ані крыху не здзівіўся.

Оля таксама ахвотна б танцавала з Адасем, але ёй далі хлопчыка з першага класа, на паўгалавы ніжэйшага, ды яшчэ з іншай школы. Оля ведала, што Кася лепшая за яе і нават у марах не спрабавала танцаваць з яе партнёрам.

* * *

Прыйшла вясна, з летнім сонцам і першымі праліўнымі дажджамі. Дзеці тры разы ў тыдзень хадзілі вучыцца танцаваць. Бацькі заўсёды стаялі каля клуба — адны з самаходамі, другія прыходзілі пехатой, — чакаючы, калі дзеці скончаць заняткі.

Раніцай гэтага дня Оліна мама сказала, што будзе дождж, бо ўначы бабулі ламала ў касцях. Ідучы забраць Олю з танцаў, мела пры сабе два парасоны, адзін — большы, другі — маленькі, Олін.

Калі яна падыходзіла да клуба, яшчэ свяціла сонца. Недзе збоку, аднак, збіраліся цёмныя хмары. Як толькі дзеці выйшлі з клуба, лінуў дождж. Можа, варта было б і перачакаць яго, але хмары ўжо зацягнулі цэлае неба. Не выглядала, што дождж скончыцца хутка.

Трымаючыся за рукі, з клуба выйшлі вясёлыя Кася і Адась. Касю ўжо чакаў, як заўсёды, бліскучы „форд", у якім сядзелі яе тата з мамай. Адася чакала толькі мама, бо ў яго таты не было. Не было таксама „форда", а нават і маленькага „фіята". Ім было вельмі цяжка, бо мама пасля смерці бацькі адна выхоўвала двое дзяцей.

Дождж ліў неміласэрна. Оля бачыла, як Кася махнула Адасю рукой, перабегла вуліцу і, сеўшы ў самаход, цмокнула маму ў шчаку. Замежнае аўта грацыёзна развярнулася і прашмыгнула перад вачыма дзяцей.

Зараз жа за ім рушылі Адась з яго мамай, мокнучы, як куры, на дажджы. У іх не было ні таты, ні бабулі, якой бы ламала на дождж косці. А мо не было нават цэлых парасонаў...

Оля ішла з мамай, скуліўшыся, быццам нейкая старэнькая бабулька, пад сваім малым парасончыкам. Яе тварык быў мокры, але не ад дажджу. Яна ведала, што Кася і Адась жывуць у адным доме, але, пэўна, хлопец мог забрудзіць сваімі мокрымі боцікамі новы Касін самаход.

* * *

Ніхто не ўгадае, калі і як чалавек пачынае і перастае верыць у свайго Бога.

**АДА ЧАЧУГА**

З народнай абраднасці

# СЁМУХА

Сёмуха (Тройца, Зялёныя святкі) - гэта старажытнае землеробчае свята беларусаў і іншых славянскіх народаў. Сёмуху святкавалі ў сем тыдняў па Вялікадні. Адсюль і яе назва.

Сам характар веснавой пары, стан гаспадарчых работ, занятасці селяніна адбіліся ў разнавіднасці абрадаў. Перш за ўсё гэта сезон, калі ўся расліннасць квітнее, набірае жыццёвую сілу, набліжаецца да апагея свайго развіцця. У гаспадарцы - гэта час пэўнага зацішша, перадышкі. Палявыя работы, сяўба, у тым ліку і самая позняя, скончаны. Сенакос яшчэ не наступіў. Да гарачай пары жніва застаецца яшчэ нейкі прамежутак часу. Гэты кароткі перапынак выкарыстоўвалі на тое, каб ажаніць сына, выдаць замуж дачку, пагуляць на ўлонні расквітнелай прыроды. У абрадах Сёмухі дамінаваў культ зеляніны, шлюбу і продкаў.

Перад святам прыбіралі і ўпрыгожвалі хату і двор "маем" - галінкамі і дрэўцамі бярозы, клёну, рабіны, дубу. Дзяўчаты плялі вянкі і ўскладалі іх на галовы. У гэтых абрадах увасаблялася жыватворная сіла зямлі. Завіванне вянкоў на Сёмуху ў старажытнасці мела працоўна-магічны сэнс - павінна было садзейнічаць пладнасці поля, ураджайнасці збажыны і гароднікі. Дзяўчаты выбіраліся ў "лугі-лужочкі завіваць вяночкі - на годы добрыя, на жыта густое, на ячмень каласісты, на авёс расісты, на грэчку чорную, на капусту белую". На вянках варажылі аб будучай долі, загадвалі пра свой чалавечы і дзявочы лёс. Падчас свята ў некаторых мясцовасцях адбывалася "кумаванне", завівалі бярозку, ладзілі гульні, карагоды, потым — агульнае частаванне. На другі дзень рабілі т. зв. "піва", кірмашы ці фэсты, на якіх збіраліся сваякі, нават далёкія.

Напярэдадні Сёмухі, у суботу, спраўлялі "дзяды", каб і продкі падтрымалі красаванне жыта. У нядзелю асвячалі ў царкве лугавыя і палявыя зёлкі, якія потым захоўваліся. У некаторых мясцовасцях імі акурвалі нябожчыкаў, клалі зёлкі ў труну.

З Сёмухай звязаны таксама абрад ваджэння куста, які выконваўся на другі дзень свята. Выкананне абраду мела аграрныя і шлюбна-любоўныя мэты. Самую маладую, прыгожую дзяўчыну прыбіралі з ног да галавы кляновымі, ліпавымі ці бярозавымі галінкамі верхам уніз, звязанымі ў аснове. На галаву надзявалі вянок. Дзяўчына ўвасабляла магічную сілу, якая здольна прынесці пладнасць ніве, спрыяць любоўна-шлюбным адносінам моладзі. "Дзявочае войска" на чале з Кустом па дзве ў рад абыходзіла двары, спявалі кустовыя песні. У іх велічалі куст, гаспадара, гаспадыню, іх дзяцей, жадаючы добрага ўраджаю, здароўя. За песні атрымлівалі галінкі і лісце. Усё гэтае бралі з сабой, сушылі, каб потым зеллем лячыць хваробы. Ваджэнне куста заканчвалася застоллем і танцамі.

**АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК**

АДГАЛОСКІ

**КАЛЯНДАР**

У 16-м нумары „Нівы" была дакладна апісана гісторыя календара (глядзі: А. Макарэвіч „Каляндар", стар. 10). Хачу да гэтага дадаць, чаго быць можа А. Макарэвіч не ведае, што ў праваслаўных „новы стыль" неераўназначны грыгарыянскаму календару.

Пакуль чалавецтва чакае стварэння ААНам новага календара, праваслаўныя ўжо 70 гадоў маюць **НОВЫ УСХОДНІ КАЛЯНДАР**, дакладнейшы за грыгарыянскі. Увялі яго ў 1923 годзе на Агульнаправаслаўнай канферэнцыі ў Канстанцінопалі, і ён да сёння з'яўляецца найдакладнейшым у свеце.

Калі праваслаўныя святкуюць паводле „новага стылю", напрыклад у Варшаве, абазначае гэта, што святкуюць яны згодна Новаму Усходняму Календару. Больш падрабязна на гэту тэму можна прачытаць у „Часопісе" ад студзеня 1993 года.

**МІХАЛ БАЙКО,**
**Гайнаўка**




Частка XLIV

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Заканчваючы публікацыю размоў з беларусамі — як з Польшчы, так і з Беларусі — пра структурныя сістэмныя перамены ў нашых краінах, прагну падкрэсліць, што амаль усе мае размоўцы былі людзьмі глыбока заангажаванымі ў гэтыя перамены. Праўда, гэтая заангажаванасць амаль ва ўсіх выпадках мела выключна тэарэтычны характар, бо вельмі рэдка ўдавалася мне выслухаць „філазафаванне" на гэтыя тэмы прадстаўнікоў прыватных фірм і суполак.

Цікава, што многія размоўцы, якія ведалі мяне асабіста падазравалі, што я стаў гарачым прыхільнікам капіталізму. Іншыя, нешматлікія, лічылі, што я прагнуў бы ўтрымаць старую сацыялістычную сістэму. Наогул размоўцы непрыхільна ставіліся да майго сцвярджэння, што я быў і „за", і „супраць" сацыялізму і што зараз ёсць і „за", і „супраць" капіталізму. Наогул размоўцы не прызнаюць такой раздвоенасці і з большай ахвотай прынялі б маю адназначную дэкларацыю.

Здаралася мне сустракацца і з такімі асобамі, асабліва сярод маладых, якія лічылі, што людзей з прасацыялістычным мысленнем трэба ізаляваць ад грамадства і пазбавіць іх магчымасці любога актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці. Людзі з такім мысленнем не дапускалі погляду, што падобная трактоўка асоб з прасацыялістычнай арыентацыяй не аслабіць, а толькі ўзмоцніць антыкапіталістычнае мысленне ў грамадстве.

Амаль усе асобы з рэзка антысацыялістычным мысленнем пераканаыны, што ў Польшчы і ў Беларусі ўзнікнуць у хуткім часе сістэмы, якія будуць цалкам падобныя да шведскага, нямецкага ці французскага капіталізму. Зрэшты, большасць з іх не надта цікавілася тым, што будзе ў нашых краінах, бо амаль усе яны верацъ, што раней ці пазней удасца ім выехаць на Захад або ў Амерыку, застацца там і ўладкаваць сваё жыццё. Многія з маладых размоўцаў даказвалі мне, што калі толькі Польшча будзе прынята ў еўрапейскую эканамічную супольнасць, то аўтаматычна адкрыюцца межы ўсіх еўрапейскіх краін і, што згодна міжнародным прынцыпам, толькі ад самога чалавека будзе залежаць, у якой краіне захоча ён пасяліцца і жыць.

Некаторыя з размоўцаў выказалі думку, што яны не вераць словам прэм'ер Сухоцкай аб тым, што праз дзесяць гадоў Польшча падвоіць прадукцыю і нацыянальны даход. Паводле гэтых асоб такія сцвярджэнні напамінаюць дэкларацыі Герка аб пабудове другой Польшчы і дэкларацыі Валэнсы аб пабудове ў Польшчы другой Японіі. Ніводная асоба з тых, хто выказаў працсацыялістычную арыентацыю, не прапанавала актыўных дзеянняў скіраваных супраць сённяшніх перамен у Польшчы. Праўда, амаль усе людзі з падобнай арыентацыяй станоўча адносіліся да такіх дзеянняў палякаў, як страйкі, галадоўкі ці блакады, аднак ніхто з іх не гаварыў, што беларусы павінны далучыцца да тых жа форм пратэсту. З такой паставы трэба зрабіць адназначны вывад, што ўсходняя Беласточчына, як дагэтуль, так і ў будучым, застанецца крытычнай у словах і пасіўнай у дзеяннях. З гэтага вынікае, што ўсходняя Беласточчына, магчыма будзе і ў далейшым аазісам грамадскага спакою.

Заканчваючы, прагну звярнуцца да беларускай інтэлігенцыі, каб трымала руку на пульсе часу і каб старалася фіксаваць народную інтэрпрэтацыю тых перамен, якія наступаюць сёння ў нашай краіне.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Зорка

Старонка для дзяцей

## СПЯВАЛА МОЛАДЗЬ

13 мая ў Бельскім доме культуры прайшоў фінал конкурсу "Беларуская песня для школьнікаў". Прынялі ў ім удзел вучні пачатковых школ, ад падрыхтоўчага да восьмага класаў. Удзельнікі агляду былі падзелены на дзве ўзроставыя катэгорыі: малодшыя - класы 0-III і старэйшыя - класы IV-VIII. У гэтых катэгорыях яшчэ асобна вылучаны былі салісты, асобна меншыя калектывы - дуэты, тэрцэты і асобна большыя калектывы.

Сярод малодшых салістаў перамагла **Аня Сухадола** з Нараўкі (II клас), другое і трэцяе месца ўзялі дзяўчаткі з Орлі: **Аляксандра Рынгайла** (II клас) і **Дарота Бакун** (першакласніца). Сярод меншых калектываў журы першага месцы не прызнала. Другое ўзяў дуэт з Чыжоў - першакласніцы **Наталля Карзуновіч** і **Кася Саўчук**, - а трэцяе - квартэт з Гарадка: **Оля Кахановіч, Эля Карпюк, Сільвія Паплаўская** і **Андрэй Паплаўскі**.

Найлепшым старэйшым салістам аказаўся **Пётр Адзіевіч** з Пачатковай школы н-р 2 у Бельску-Падляшскім, а другую ўзнагароду атрымала **Эдыта Цепялеўская** з Нараўкі. Сярод меншых калектываў у гэтай катэгорыі першага месца, таксама як і ў першай, не было. Другое заняў квартэт з Чыжоў: **Юля Карзуновіч, Аня Сахарэвіч, Кася Вішнеўская** і **Крыстафор Сямяцкі**, а трэцяе супольна дуэт з Малліннік: **Аня Васілюк** і **Раіса Краўчук** і тэрцэт з Чыжоў: **Юля Карзуновіч, Крыстафор Сямяцкі** і **Арэк Якімюк**.

Сярод большых старэйшых калектываў першае месца занялі школьнікі **з Нарвы**, другое прыпала калектыву **"Журавінкі"** з Пачатковай школы н-р 3 ў Бельску-Падляшскім, а трэцяе - вучням з **Ласінкі**.

Спецыяльную ўзнагароду гаспадароў - Бельскага дому культуры - за цікавае сцэнічнае мастацтва атрымаў **хор з Пачатковай школы ў Нараўцы "Душкі з пушкі"**.

Арганізатар агляду – Беларускае грамадска-культурнае таварыства - паміж усімі лаўрэатамі раздзяліла грашовыя ўзнагароды. Гэта павінна рэкампенсаваць высілак маладых артыстаў падчас падрыхтоўкі і заахвоціць іх да ўдзелу ў падобных мерапрыемствах у будучыні.

Але, па-мойму, ужо сама прысутнасць на такім прыгожым канцэрце была ўзнагародай, бо ўсе выканаўцы - не толькі тыя адзначаныя - спявалі вельмі прыгожа і добра паказалі сябе на сцэне. Ды і публіка - у большай частцы вучні малодшых класаў з "тройкі", - была вельмі сімпатычная, рэагавала спантанна, шумныя воплескі ўспыхвалі раз-пораз.

Адна толькі група людзей засталася неяк незаўважанай. Гэта настаўнікі, якія рыхтавалі сваіх выхаванцаў да агляду! Падчас канцэрту ні разу не паявілася прозвішча настаўніка, не ведала іх таксама і журы! А я думаю - хіба і вы будзеце згодны са мною, - што іх тут заслуга не малая.

Можа самі вучні будуць больш здагадлівыя і, напрыклад, запросяць сваіх апекуноў на марожанае? Лаўрэаты, што вы на гэта скажаце?

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



*Кубусь з Міклашэва.* **Фота М. Лукшы**

ЛЕАНІД ПРОКША

## ДЗІМКА І БІМКА

Дзімку дужа хацелася мець сабаку. Напачатку, зразумела, хоць бы шчанюка. У школе некаторыя хлопчыкі маюць нават аўчарак. Якія цікавыя гісторыі расказваюць гэтыя хлопчыкі! Купаліся дзеці. Адзін хлопчык пачаў тануць. Сабака Бімка кінуўся ў ваду і выратаваў тапельца! З такім сябрам нідзе не прападзеш...

А ў Сярожы, з якім Дзімка сядзіць за адной партай, аж дзве аўчаркі - малая і вялікая. Сярожаў брат Косця вялікую аддаў пагранічнікам. Праз некаторы час Косця атрымаў пісьмо з заставы. Яго Грозны злавіў дыверсанта. Косцю выказалі падзяку...

А што, хіба Дзімка не мог бы выгадаваць такога сабаку? Колькі разоў ён прасіў маму купіць шчанюка - не пагаджаецца. Крыўдна хлопчыку. Аднойчы ён не вытрымаў і сказаў:

- Ты, мама, не любіш сабак.

- Наадварот, - усміхнулася маці. - Я вельмі люблю сабак і таму не хачу здзекавацца з іх.

- Дык і я ж люблю.

- Любіць - гэта яшчэ не ўсё, - адказала маці. - Адной любоўю сабачка жыць не можа. Яго трэба карміць, паіць, даглядаць...

- Я ўсё гэта буду рабіць...

- Будзеш? Калі? Ты ўвесь дзень у школе. Я на рабоце. Тата часта ў камандзіроўцы. А сабака будзе сядзець галодны...

Маму цяжка пераканаць. Тату тым больш.

- Сабака ў гарадской кватэры - навошта?! - здзіўляецца ён. - У вёсцы сабака - вартаўнік. На граніцы - баявы сябар пагранічніка. Міліцыянеру сабака памагае выкрыць злодзея. На поўначы на сабаках ездзяць аленяводы. Чабану сабака памагае даглядаць чараду. А вучню трэцяга класа сабака не паможа рабіць урокі...

- Я з ім гуляць буду...

- Сабака не забава. У сабакі ёсць сваё прызначэнне...

- А ў Сярожавым доме былі аж два сабакі. Адзін цяпер на граніцы...

- У іх свой дом, двор. Ёсць бабуля-пенсіянерка... А ў нас усе занятыя. Апрача таго, у Сярожы ёсць старэйшы брат...

- Ну, вось, - пакрыўдзіўся Дзімка. - А ў мяне ні брата, ні сабакі...

З гэтай крыўдай Дзімка і заснуў. І прысніўся яму такі сон. Ідзе ён са школы з Сярожам, а Сярожа і кажа: "Брат мой прынёс двух шчанюкоў. Два нам не патрэбны. Хочаш, аднаго аддам табе?" - "Хачу!.." - як не крыкне ад радасці Дзімка. "Тады хадзем да мяне" - сказаў Сярожа. Праз паўгадзіны Дзімка ўжо нёс дадому шчанюка. Бег, як апантаны. На шчасце, ні мамы, ні таты дома не было. Накарміў шчанюка малаком, сырам. Нават салёны агурок даў яму, але шчанюк толькі панюхаў і адказаў чалавечым голасам: "Я гэтага не ем..."

Тут жа Дзімка пачаў яго вучыць. Кінуў аловак і скамандаваў: "Прынясі!" Нясе ў зубах, дыбаючы на крывых лапках... Падае пачціва: "Калі ласка!.."

Прыемна гуляць з ім. Але Дзімка ўспомніў, што неўзабаве прыйдзе з работы мама, і сказаў: "Убачыць цябе і загадае аднесці Сярожу..." - "А ты схавай мяне..." - "Куды? О, у камору. Тут некалі былі дровы. Цяпер нам правялі газ. Печ разбурылі, і дровы вынеслі..."

Шчанюк абнюхаў камору і сказаў: "Нармальна. Праўда, акенца няма, але такой бяды..."

Дзімка паклаў у кут падушку з канапы, паставіў рознай ежы.

"А вучыцца лавіць дыверсантаў я, пакуль ты ў школе, сам буду", - сказаў шчанюк і лёг.

Мама прыйшла з работы, але нічога не заўважыла. А раніцай, калі яна адвярнулася, Дзімка занёс большую палову свайго сняданку ў камору і пабег у школу...

Шчанюк вырас, стаў вялікім сабакам. Неяк ён страсянуўся і сказаў Дзімку:

☞ *Працяг на стар. 10*

*МІРА ЛУКША*

**КОТ ХВЯДОТ**

Пайшоў Хвядот у Гайнаўку
На рынак, купіць боты, -
Цёплыя боты-валенкі
Патрэбныя Хвядоту.

Ідзе коцік па балоце,
Па купінах скок ды скок,
Скок ды скок:
У адным парваным боце
Белы ў крапінкі каток.

Купіў Хвядот у крамніка
Касцюм, шкарпэткі, боты,
Ядвабны гальштук, валенкі -
Усё за дзесяць злотых!

Ідзе коцік у Ліпіны,
Па купінах скок ды скок,
Скок ды скок,
І збірае журавіны
Белы ў крапінкі каток.

* * * * * * * * * * * *

*НІЧЫПАР ПАРУКАЎ*

**ЛІЧЫЛКА**

Ля Яўгена села Лена,
Ля Генадзя села Ядзя,
Каля Зосі - два Антосі,
Каля Надзі - два Аркадзі,
Каля Янкі - тры Святланкі,
Каля Сашы - тры Наташы.
Колькі тут дзяўчат усіх?
Колькі хлопчыкаў ля іх?
Хочаш ведаць - не сядзі,
Сам цяпер лічыць ідзі!

* * * * * * * * * * * * *

*ХВЕДАР ЛАШКЕВІЧ*

**СКОРАГАВОРКІ**

Па пасёлку вёз Савось
З рынку проса і авёс.
Як прыехаў, то ў Савося
Толькі проса засталося,
Бо Савось увесь авёс
Перад вёскаю растрос.

* * *

Маліны Міла мялам мяла,
Маліны Міла мяла мала.

* * * * * * * * * * * *

*ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ*

**СКОРАГАВОРКІ**

**САКАВІК**
Люты ўцёк,
люты знік.
І пацёк
снегавік.
Дзе твой сок,
сакавік?

**КРАСАВІК**
Красавік у родным краі.
Краскі яркія збірае.

**ТРАВЕНЬ**
Травень выпусціў траву.
Я траву кароўцы рву.

**ЧЭРВЕНЬ**
Чэрвень.
Чарнеюць
чарніцы,
і чырванеюць
суніцы.

**ЛІПЕНЬ**
Лета, ліпень.
Ліпнуў лівень.
Пахнуць ліпы
і маліны.

**ЖНІВЕНЬ**
Жняцы на ніве,
жне жыта жнівень.

**ВЕРАСЕНЬ**
Вырас верас і цвіце.
Восень, верасень ідзе.

**КАСТРЫЧНІК**
Кастры - гара.
Кастры гараць.
Парадак у гаспадара.

**ЛІСТАПАД**
У садзе ў лістападзе
апошні ліст ападзе.

**СНЕЖАНЬ**
У снежні сняжынкі
занеслі сцяжынкі.

**СТУДЗЕНЬ**
Воды студзень студзіць,
лёд ля студні будзе.

**ЛЮТЫ**
Надзьмуты люты дзьме.
Ну, дзе канец зіме?

# МЫ, БАБУЛІ, ДЗЯДУЛІ І ЎНУКІ (3)

Любоў, павага, прыхільнасць усіх членаў сям'і адзін да аднаго робяць жыццё больш радасным і змястоўным. Таму, калі вы правільна разумееце і выконваеце свой доўг перад вашымі бацькамі, калі стараецеся зразумець іх, калі праяўляеце да іх увагу, то жыццё сям'і, нягледзячы на непазбежныя сутыкненні і канфлікты, прыносіць задавальненне ўсім яе членам. А шчасце ў сем'ях - аснова дла паляпшэння працы, усяго жыцця і кожнага з членаў сям'і, і грамадства ў цэлым.

Пакуль дзеці малыя, то зразумела, хто дае і хто бярэ. Але вось дзеці выраслі, бацькі пастарэлі. З чаго пачаць: з узаемных кампрамісаў ці падлікаў, хто і каму павінен? Тут патрэбны мудрасць і асаблівая тактоўнасць родных людзей, каб, уявіўшы сябе на месцы другога, зыходзіць з таго, каму найбольш цяжка і каму дапамога неабходна ў першую чаргу. Дабрыня не паддаецца падліку, не церпіць яна процістаяння - яны і мы. Абавязкова: мы. Адгэтуль і нараджаецца шчаслівае пачуццё патрэбнасці адзін аднаму, узаемаабагачэння.

Вядома, у доме, дзе ёсць бабуля і дзядуля, бацькам спакайней. Нездарма ўнукі, якія выраслі ў такой сям'і, з удзячнасцю ўспамінаюць сваё дзяцінства. Бабуля і дзядуля могуць падарыць унукам увагу, якой ім часта не хапае з-за занятасці таты і мамы, выхаваць у іх навыкі, так неабходныя ў жыцці. Усё, што самае лепшае - роднасць трох пакаленняў.

Жыццё сям'і немагчыма без духоўнага яднання, узаемнай павагі, сямейных традыцый, пачуцця доўгу, справядлівасці. Вы, маладыя людзі, абавязкова павінны памятаць аб гэтых важных каштоўнасцях сямейнга жыцця. Ці захоўваюцца ў вашым доме сямейныя рэліквіі? Што ведаеце аб жыццёвым шляху вашых блізкіх? Ці ёсць у вашым доме фотаальбомы, звязаныя з юнацтвам вашых дзядоў, каб потым вы маглі пазнаёміць бліжэй ужо сваіх дзяцей з гісторыяй роду?

*(Працяг у наступным нумары)*

**Л. БАЛЦЭВІЧ, Л. ГАРБАЦЕНКАВА**

*ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ*

# ЯК РАСЛІНЫ ДАПАМАГАЮЦЬ АДНА АДНОЙ

З даўніх часоў людзі дапамагалі адзін аднаму выконваць розную фізічную работу, добрым словам, парадай аблягчалі пакуты, а часам нават і зусім вылечвалі хваробу. Але ў далёкім мінулым, калі ніхто не ведаў прыроды гіпнозу, уздзеяння словам на хворага чалавека, такога лекара лічылі чараўніком. Шукалі і іншыя сродкі для вылячэння. Імі паступова і сталі лекавыя расліны. Зёлкі выкарыстоўвалі і знахары, чараўнікі. Знарок надавалі ім таямнічасць, а рэцэпты прымянення гэтых раслін па свайму складу рэкамендавалі проста фантастычныя. У некаторых старых рэцэптах фігуравалі дзесяткі кампанентаў расліннага, жывёльнага і мінеральнага паходжання. Народная мудрасць паступова разгадала гэтую "таямнічасць" і адкрыла сапраўдную лекавую сілу раслін. Раслінамі лячылі не толькі людзей, але і расліны. Лекавую здольнасць іх вывучалі дзесядзігоддзямі.

Здольнасць раслін - іх тканак і лятучых часцінак - знішчаць прасцейшыя мікраарганізмы адзначалі многія вучоныя, але ніхто з іх не мог даць навуковага тлумачэння гэтай з'яве. Шчасце першаадкрывальніка выпала на долю прафесара Пецярбургскага ўніверсітэта Барыса Токіна (1930 г.). У яго вопытах рэчывы расліннага паходжання бязлітасна распраўляліся з інфузорыяй і хваробатворнымі бактэрыямі. Гэтыя рэчывы Токін назваў фітанцыдамі. Фіта - па-грэчаску "расліна", цыда - па-лацінску "забіваю". Рэчывы, здольныя тармазіць развіццё або знішчаць бактэрыі і мікраскапічныя грыбы, людзі і цяпер прымяняюць для аховы раслін ад хвароб і шкоднікаў.

Такія рэчывы ўтрымліваюць амаль усе зялёныя расліны, але асабліва багатыя імі хвойныя дрэвы, дуб, бяроза, вольха, палын, розныя віды цыбулі, надземныя часткі памідораў, бульбы і іншых культур. Настоі, адвары і парашкі з іх трэба рыхтаваць у пачатку цвіцення, калі яны найбольш таксічныя.

Расліны, якія валодаюць фітанцыднай актыўнасцю, дапамагаюць іншым раслінам. Калі побач з парэчкамі пасадзіць цыбулю або часнок, ягады будуць здаровымі і смачнымі. Грэцкія арэхі ахоўваюць ад хвароб і шкоднікаў вінаград, яблыня - грушу. Сам жа вінаград таксама багаты фітанцыдамі. З яго лазы выраблююць супрацьмікробны прэпарат, які ўжываецца пры засолцы мяса.

Сваімі фітанцыдамі абараняе сад ад многіх шкоднікаў і хвароб квітучая чаромха.

Эфектыўнасць фітанцыдных уласцівасцей многіх раслін можаце праверыць у сваіх агародчыках і садах.

**А. МАКАРЭВІЧ**

*ВОЛЬГА КІРЫЛАВА*

## ТОМА РАШАЕ ЗАДАЧЫ

Тома навучылася лічыць і просіць маму, каб задавала ёй задачкі.

- Добра, - згаджаецца мама. - У цябе было сем яблыкаў, а ў Іры пяць. Колькі яблыкаў было ў вас разам?

Тома лічыць на пальцах. Але іх не хапае і малая ў разгубленасці.

- Трынаццаць, - адказвае яна не зусім упэўнена.

- Няправільна. Палічы лепш.

- Адзінаццаць.

- Не.

- Пятнаццаць.

- Зноў не так.

- Ты заўсёды мне не верыш, - ужо ледзь не са слязамі кажа дзяўчынка.

* * *

- А цяпер, Тома, такая задача. У цябе было пятнаццаць цукерак. Пяць ты дала бабулі, дзве Славу. Колькі цукерак у цябе засталося?

- Чаму мне толькі дзве? - спахопліваецца Слава, вялікі ласун.

- Слава, гэта ж умова задачы, - тлумачыць мама і ўсміхаецца.

- Усё роўна. Хачу болей.

- Ну, добра, - уступае мама. - Табе Тома дала шэсць цукерак.

- Во цяпер няхай рашае!

## КАЛЯРОВАЯ "ЗОРКА"



Памалюй зялёным колерам палі пазначаныя рыскай, а пустыя — карычневым.

# АДА І ДЗЕД САКРАТ

Настаўнікі страйкавалі, і маленькая Ада прыйшла з бабуляй у рэдакцыю. Нешта напісала бабуля, напісала апавяданне і Ада, ды аддала цёці Міры ў "Зорку". Пасля пайшлі яны пераставіць бабулін самаход з сонца ў цянёк.

А потым патэлефанавала ў рэдакцыю Адзіна мама, а трубку падняў дзед Сакрат.

- Няма Ады, - пажартаваў рупліва ён, - пайшла купляць з бабуляй бананы, бо цёця Міра абяцала ганарар за апавяданне ў "Зорцы"!

- Смешны гэты дзед Сакрат, - сцвердзіла Ада, вярнуўшыся. - Мне ж бананаў есці нельга!

**(ач)**

*Засумавала...* **Фота М. Лукшы**

# ДЗІМКА І БІМКА

*Працяг са стар. 9*

"Дзякую, я вырас. Цяпер мне няма чаго рабіць у каморы. Пайду на граніцу..." - лізнуў языком хлопчыка і пабег.

"Бывай! - крыкнуў яму ўслед Дзімка. - Ты ж хоць напішы..." - і заплакаў.

Прачнуўся, бачыць, над ім схілілася мама:

- Ты чаго, сынок, плачаш?

- Шчанюк збег, - адказаў хлопчык, думаючы пра сон.

- Нікуды ён не збег, - прамовіў тата і падышоў да Дзімкі. - Вось ён...

Дзімка не паверыў сваім вачам: сапраўды, шчанюк! Шэранькі з чорнымі плямамі і бліскучымі вачанятамі - ну якраз такі, якога бачыў у сне...

Дзімка схапіў шчанюка.

- Дзе ты ўзяў яго, тата?

- На дарозе знайшоў. Нехта пакінуў, ці, можа, сам згубіўся. Скуголіць, бедалага. Шкада мне стала, забраў. Хай сабе, думаю, сынок пацешыцца...

- Дзякуй, татачка!..

Дзімка пабег на кухню, наліў у талерку малака...

- Тата, назавём яго Бімкам, га?

- Няхай сабе будзе Бімка... - адказаў тата.

Дзімка заскакаў ад радасці каля Бімкі. Ён ужо ўяўляў яго пагранічнікам і следапытам...

- Спознішся ў школу, - нагадала хлопчыку мама.

Дзімка хуценька памыўся, праглынуў сняданак, ухапіў ранец і крыкнуў на хаду: "Мама, я сёння не застануся ў святліцы!"

На ўроках Дзімка толькі і думаў пра Бімку. І, вядома, на перапынку пахваліўся ўсім, што ў яго цудоўны шчанюк.

- Я навучу яго лавіць шпіёнаў! Ніводзін не пяройдзе граніцы...

Цяпер Бімка займаў у Дзімкі ўвесь вольны час. Хлопчык карміў яго, паіў, вадзіў на прагулку. Шчанюк не адыходзіў ад яго ані на крок. А трэба ж было рабіць урокі. Вось гэтага Бімка не разумеў...

Хлопчык стараўся ўсе ўрокі падрыхтаваць і дагледзець шчаня, вучыў яго, хоць ён, дурненькі, ніяк не мог рабіць тое, што загадваў Дзімка...

Усё ішло добра, але аднойчы мама сказала:

- Нам з табою далі пуцёўку ў прафілакторый на два дні. Я была ў школе, папрасіла настаўніцу, каб дазволіла табе прапусціць заняткі.

Дзімка ўзрадаваўся, потым спахапіўся:

- А з Бімкам як? Возьмем з сабою?

- Нельга, - адказала мама. - А тата ў камандзіроўцы...

Вырашылі пакінуць Бімку як мага болей ежы - і паехалі.

Дзень у прафілакторыі прайшоў, як у сне: каталіся на лыжах з гары і па лясных сцежках, купаліся ў басейне, глядзелі каляровы фільм. А за вячэрай прадставілі ім праграму на наступны дзень, таксама вельмі цікавую.

- А як там наш сабачка? - успомніла мама.

- Можа, з'еў усё і скуголіць галодны, - сумна прамовіў Дзімка. - І пагуляць яго трэба было б вывесці...

Мама маўчала. Дзімка вырашыў сам:

- Едзем дадому!

- Канечне, - пагадзілася мама. - Нельга здзекавацца з жывёліны.

У цягніку Дзімка спытаў:

- Мама, а калі ты будзеш бабуляй на пенсіі?

Маці ўсміхнулася:

- Палічы: жанчыны ідуць на пенсію ў 55 гадоў, а мне - трыццаць.

- Праз дваццаць пяць гадоў. О, яшчэ няскора...

Дзімка доўга маўчаў: думаў пра тое, што прыйдзе лета, дзеці паедуць у лагер, а куды Бімку дзець?

- Гэта ўсё ж вялікая адказнасць мець жывую істоту, - уздыхнуў хлопчык. - Праўда, мама?

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# БАРБАРЫС — ВІТАМІНЫ І ЛЕК

Барбарыс звычайны (*Berberis vulgaris* L.) — гэта калючы куст, які можна сустрэць у лясах і зарасніках амаль усёй Еўропы. Сустракаецца і як дэкаратыўная расліна ў парках. Барбарыс быў вядомы ўжо старажытным вавілонцам і індусам. Надпісы на гліняных дошчачках „Агіурбаніпалавай бібліятэкі" за 650 гадоў да нашай эры гавораць аб ягадах барбарысу як аб сродку, які „ачышчае кроў".

Барбарыс дасягае вышыні 1,5-2,5 м. Лісце яго светлазялёнае, авальнай формы, закончанае зубкамі, сабрана ў пучкі. Кветкі маленькія, жаўтаватага колеру, падобныя на калакольчыкі, але сабраныя ў звісаючыя суквецці. Плады — прадаўгаватыя чырвоныя ягады.

У Расіі з ягад барбарысу на працягу некалькіх стагоддзяў вараць смачнае варэнне, жэле, робяць сокі, сіропы, выкарыстоўваюць як прыемную кіслую прыправу да розных мясных і рыбных страў. У народнай медыцыне барбарыс выкарыстоўваўся ў якасці жоўцегоннага, мачагоннага і расслабляючага сродка пры цынзе (szkorbucie), страце апетыту і іншых хваробах.

У Польшчы барбарыс сустракаецца рэдка. Было заўважана, што на ніжнім баку лісцяў барбарысу вясною часта развіваецца мікраскапічны іржаўчынны грыбок, які заражае збожжа ці кармавыя травы, што растуць непадалёку. Сяляне пачалі масава выкарчоўваць барбарыс, ахоўваючы свае палеткі, і давялі да такога стану, што барбарысу амаль не відаць.

У лячэбных мэтах збіраюць здаровае лісце барбарысу ў маі ці чэрвені, а спелыя ягады ў жніўні ці верасні, калі яны набываюць яскрава чырвоны колер. Лісце сушаць у натуральных сушарнях у зацененых і прадуўных месцах, а ягады — у сушарнях, якія ацяпляюцца, спачатку ў ніжэйшай тэмпературы, пасля — у тэмпературы каля 50-60°С. Лячэбнай сыравінай з'яўляецца высушанае лісце барбарысу — *Folium Berberidis* і ягады барбарысу — *Fructus Berberidis*.

Раней у Польшчы збіралі таксама карэнні барбарысу — *Radix Berberidis*, а таксама кару з карэнняў і галінак барбарысу — *Cortex Berberidis*. Сёння гэтага не робяць, каб не знішчыць расліну.

Ягады барбарысу — натуральная крыніца лёгка засвойваемых вітамінаў, такіх як вітамін С, а таксама каратэнаў, якія з'яўляюцца правітамінам А. Гэта каштоўная вітамінізуючая сыравіна рэгулюе працэсы абмену рэчываў і павышае агульную адпорнасць арганізму, асабліва пры бактэрыйных заражэннях, а таксама пры запальных станах слізістай абалонкі, пры прастудзе, тэмпературы з розных прычын, пры рэўматычных хваробах. Натуральны вітамін С з барбарысу дзейнічае на арганізм чалавека больш паспяхова, чым славутая аскарбінавая кіслата.

Экстракты з барбарысу стымулююць выдзяленне жоўці і аблягчаюць яе праход праз жоўцевыя шляхі, памяншаюць болі і запальныя станы пры захворваннях жоўцевага пузыра і печані.

У розных органах расліны былі знойдзены рэчывы, якія добра ўплываюць на арганізм чалавека. Сярод іх шэраг алкалоідаў, з галоўным з якіх — берберынам звязваюць здольнасць прэпаратаў барбарысу аказваць стымулюючае ўздзеянне на мускулатуру маткі, выклікаць зніжэнне крывянога ціску, узмацняць аддзяленне жоўці, павялічваць амплітуду сардэчных скарачэнняў.

Лісце барбарысу выкарыстоўваюць пры матачных крывацёках, выкліканых запальным станам родных шляхоў.

У тропіках берберын прымаюць унутрана і ва ўколах пры халеры і малярыі.

Прэпараты з барбарысу, у якіх ёсць берберын, пры прымяненні ў адпаведных дозах, не выклікаюць адмоўных рэакцый у дарослых. У дзяцей здараецца нуднасць.

## ВІТАМІННЫ АДВАР З БАРБАРЫСУ

1 лыжку раздробленых ягад барбарысу заліць 1 шклянкай кіпетню, падаграваць, пакуль не закіпіць, і варыць на слабым агні 3 мінуты. Напарыць 15 мінут, а тады працадзіць. Піць чвэрць — паўшклянкі 2-3 разы ў дзень пасля яды ў якасці вітамінізуючага і крыху мачагоннага сродка. Можна крыху пасаладзіць адвар цукрам ці мёдам.

## АДВАР СУПРАЦЬ ТЭМПЕРАТУРЫ

Па паўлыжкі ягад барбарысу, дзікай ружы і маліны заліць 1 шклянкай кіпетню. Падагрэць да кіпення і варыць паволі 2 мінуты пад покрыўкай. Зняць з агню. Напарыць 15 мінут, працадзіць. Можна пасаладзіць. Піць па чвэрць — паўшклянкі некалькі разоў у дзень пры хваробах, якія выклікаюць тэмпературу.

## МАЧАГОННЫЯ ЗЁЛКІ З БАРБАРЫСАМ

Змяшаць па 50 г лісця бярозы і зёлак грыжнай травы ці сабачага мыла (połonicznika), па 25 г лісця барбарысу, зёлак братак, карэнняў дзьмухаўца і ягад дзікай ружы. 2 лыжкі мяшанкі заліць 2 шклянкамі гарачай вады. Падаграваць да кіпення і варыць на малым агні пад покрыўкай 3 мінуты. Адвар настойваецца яшчэ 15 мінут, а тады яго працэджваюць. Піць па палавіне — двух трэціх шклянкі на 2 — 3 разы ў дзень паміж ядою пры хваробах мачавых шляхоў.

ЭСКУЛАП

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прысніўся цяжкі сон. Быццам бы прыехалі да нас госці з-за граніцы. Я чамусьці ў хаце адна. Сям'і нідзе не відаць. А ў хаце поўна памытай бялізны, я яе якраз развешваю на расцягнутых шнурках.

Раптам я апынулася ў нейкім рэстаране. На сталах мноства яды. Побач са мною сядзяць гэтыя мае госці, а ў зале поўна іншых гасцей, якія быццам бы прыехалі з імі. Я нешта ем, але мне гэта яда неяк не ідзе. Раптам бачу, што у маёй суседкі (у той маёй госці, што прыехала да мяне з мужам), няма талеркі. Як жа ёй есці?! Я падумала, што трэба збегаць дахаты і прынесці ёй талерку.

І вось я ўжо ў хаце. Неяк зусім забылася, за чым прыйшла. Пачала ізноў развешваць на расцягнутых шнурках бялізну. Пазавешвала ўвесь пакой (быццам жыву я ў нейкім цагляным доме з адным пакоем). А дзе ж змесціцца мае госці?.. Увесь час праследуе мяне непакой.

Але ж трэба вяртацца туды, дзе ўсе ядуць, трэба ж забраць сваіх гасцей. Я хачу замкнуць дзверы на ключ, а яны не замыкаюцца. Дзверы нейкія старыя, і замок у іх сапсаваны. На гэтым я з вялікай радасцю, што гэта не ява, а сон, прачынаюся.

Дарота

Дарота, даражэнькая! Нешта цябе надта непакоіць. І, здаецца, не без падстаў. Праўдападобна, ты атрымаеш нейкія грошы — гэта можа быць выйгрыш, а мо і наследства. На карысць падобнага меркавання сведчыць тое, што ты ў сне найбольш развешвала бялізну. У сувязі з гэтым выклічаш зайздрасць, злосць і нянавісць з боку асяроддзя (тыя госці). Будуць нейкія праблемы (ты не магла зачыніць дзверы, сапсаваны замок). Трымайся!

АСТРОН

## БУХОННЫЯ ПЛЯЦЫ

З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ

### РЫБА ПА-МАСКОЎСКУ

Прадукты:

*60 дэкаў філе рыбы,*
*30 дэкаў бульбы,*
*1 цыбуліна,*
*1 варанае яйка,*
*некалькі вараных грыбоў,*
*паўтары шклянкі смятаны,*
*5 дэкаў жоўтага сыру,*
*мука,*
*алей,*
*соль, перац.*

Філе рыбы парэзаць, пасаліць, пасыпаць перцам, памачаць у муцэ і смажыць на алеі. Звараную ў мундзірах бульбу нарэзаць скрылёчкамі, падсмажыць на алеі (ці шмальцы). Жароўню змазаць маслам. Пасярэдзіне палажыць рыбу. Навокал яе — бульбу, пасыпаць яе падсмажанай цыбулькай, пасечаным яйкамі і грыбамі, заліць смятанай, пасыпаць сцертым на тарцы сырам. Запячы.

ГАСПАДЫНЯ

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 3. каштоўны мінерал, 8. снежная бура, 9. мясцовасць у Крыме, 10. зуб слана або кабана, 11. член аскетычнай рэлігійнай абшчыны, 13. нацыя, 14. горад на поўначы Украіны, 15. нічыйны канец шахматнай партыі, 19. спецыяліст па старажытных манетах, 21. штат, дзе нарадзіўся Клінтан, 22. папрок, здагадка, насмешка, 25. жыхарка Пружан, 27. пiццё для жывёлы, 28. хлус, 29. мелкае месца, па якім можна перайсці раку, 30. штат ЗША, куплены ў Расеі, 31. пахавальны ўбор, 32. бацька жонкі для мужавых бацькоў.

**Уніз:** 1. высушаныя абрыкосы, 2. беларускае возера, 4. горная паша ў верхнім поясе Карпат, 5. раствор смол у спірце, які прыдае бляск, 6. сярэднявяковы цэнтр Палесся, 7. частка агнястрэльнай зброі ў выглядзе трубы, 12. кубінскі народны танец, 13. мясцовасць каля Стаўбцоў, ад якой назва пушчы, 15. папярэдне намечаная сістэма мерапрыемстваў, 16. пачуццё меры, захаванне правіл прыстойнасці, 17. рака ў Казахстане, упадае ў Каспійскае мора, 18. еўрапейскі вулкан, 20. грамадская або дзяржаўная арганізацыя, 23. вялікая чорная птушка, 24. храстковая трубка ў пярэдняй частцы шыі, 25. шчыльны слой чаго-небудзь, 26. горы ў Азіі, 29. нізкі мужчынскі голас.

Ш

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на велікодную крыжаванку з 16 н-ра: вязь, звер, цана, ягня, лязо, ромб, яйка, сцяг, слон, Орша, тэма, рэйс, асцё, раён, ранг, гоні, храм, хрэн, Рэал, Осла, стог, соус, рыба, млын, рытм, соты, плот, сноп, клас, хват, яхта, лета.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага.


Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

МА КАТ РАЗМЫ

## ЗНЯМОГА

Кліч да новых боек скрозь чую,
А я ў снах учарашніх начую.
Ногі ў здрадную вязнуць дрыгву,
На той бераг дайсці не магу.

Сэрца кошка злая скрабе:
— Усё дарма, не ўцячэш ад сябе.

СІДАР МАКАЦЁР

*АМБРОЗ БІРС*

## СА "СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Абсурд** - сцвярджэнне ці думка, якія не супадаюць з вашым пунктам гледжання.

**Агітатар** - дзяржаўны дзеяч, які трасе яблыні сваіх суседзяў: каб адтуль паспадалі чарвякі і пабіліся.

**Адвага** - ваенная камбінацыя гонару, абавязку і надзеі рызыканта.

**Адкрыццё** - вядомая кніга, у якой св. Іаан Багаслоў схаваў усё, што ведаў. Адкрыццё паводле той кнігі робяць каментатары, якія не ведаюць нічога.

**Адукацыя** - тое, што адкрывае мудрым і хавае ад дурняў нашую няздольнасць разумець жыццё.

**Акадэмія (I)** - сучасная школа, дзе вучаць гуляць у футбол.

**Акадэмія (II)** - старажытная школа, дзе вучылі маралі і філасофіі.

**Акіян** - водная прастора, якая займае каля дзвюх трэціх свету, што быў створаны для чалавека, які не мае шчэлепаў.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

## СЕНТЭНЦЫІ

Кропля сэрца крылы ўзнімае.

* * *

У салодкім моры горкія рыбы.

* * *

Той жыве, хто жыццё смокча.

* * *

У вясновай кветкі асеннія карэнні.

* * *

Найсалодкі яблык не заменіць грушкі.

БАРЫС РУСКО

# НІЎКА




*Мал. П. Козіча ("Вожык")*

## ЖАРТАЧКІ

Два шафёры за чаркаю выхваляюцца:

- Памятаю, аднойчы я ехаў з такою хуткасцю, - кажа адзін, - што слупы мігцелі як штахеты!

- Не, гэта глупства! - адазваўся другі. - Я аднойчы зрабіў такі паварот на поўным ходу, што ўбачыў задні нумар сваёй машыны!

* * *

- Што гэта: чай ці кава? Мне здаецца, што напітак пахне газай!

- Калі вам здаецца, што пахне газай, то гэта - чай, бо кава ў нас пахне шкіпінарам.

* * *

- Узважце мне, калі ласка, самы горшы кавалак мяса, - просіць Парфен мясніка.

- Чаму?

- Каб жонка больш у краму не пасылала.

* * *

Турыст папрасіў у рэстаране тэлефонны даведнік. Ён хацеў удакладніць адзін адрас.

- На жаль, - адказаў адміністрар, - у нас яго няма, але мы можам прынесці вам кнігу скаргаў. Там запісаны адрасы амаль з усяго горада!

* * *

Ноч. П'яніца намагаецца ўставіць ключ у ліхтарны слуп. Падыходзіць паліцэйскі і іранічна пытае:

- Вы што, не бачыце - нікога ж дома няма.

- Як няма, а чаму тады на другім паверсе святло гарыць?

*Падборку зрабіў*
*ЯНКА ЗАРЭЧНЫ*

*УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА*

## ЯК ХРЫСЦІНКА - ПЕКНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА ПАСКУДНАГА ЧОРТА ЎРАТАВАЛА

*(беларуская казка)*

Даўным-даўно, у старадаўнія часы жыў у пекле адзін чорт. І быў ён такі ўжо паскудны, што не толькі грэшнікі, але й самі чэрці з яго стагналі. Бывала, прывязуць нячысцікі цэлы воз дроваў - грэшнікаў смажыць, а Паскудны Чорт возьме ды дровы незаўважна вадою абалье. Запаляць бесы бярвенні, а тыя сырыя, не гараць, толькі дым ідзе. Мярзотнік, да таго ж, стане збоку і дзьме на вогнішча - дым качагарам толькі вочы есць. Бесам слёзы, а паскудніку - пацеха. Ці, бывала, пракрадзецца ноччу ў інтэрнат, дзе малых чарцянятак выхоўваюць, заўважыць, што падлеткі салодка спяць ды завяжа ім хвасты на вузел, а потым як гаркне над самым вухам! Малыя палохаюцца, вішчаць, хочуць у розныя бакі разбегчыся - ды дзе там. Бывала, што і хвасты абрывалі адзін аднаму. А паскуднік стаіць і рагоча.

Сабраліся аднаго разу чэрці на нараду - як ад таго шкодніка пазбавіцца. Думалі яны думалі і, нарэшце, прыдумалі - склалі ліст у канцылярыю самога Пана Д'ябла: маўляў, так і так, праз хабёльствы гэтага свінтуса не можам выконваць свае службовыя абавязкі. Прачытаў той ліст Пан Д'ябал, раз'юшыўся моцна і выклікаў Паскуднага Чорта да сябе ў кабінет. "Шмат крыўды нарабіў ты маім падданым, - кажа Пан Д'ябал. - Дык вось, за гэта даю табе такую задачу: адпраўляйся-ка ты ў камандзіроўку на зямлю і спакусі на які-небудзь цяжкі грэх аднаго прыстойнага чалавека - Марціна-Селяніна.Даю табе тры дні і тры ночы. Выканаеш - зраблю сваім найпершым намеснікам, бо твая вынаходлівасць і шкодніцкае нутро мне вельмі даспадобы. Не выканаеш - аддам на расправу да Пана Бога і Яго Святога Воінства. Хай тады робяць з табою, што захочуць". Бачыць Паскудны Чорт, што задача няпростая, бо таго Марціна-Селяніна ён добра ведаў, але хіба супраць начальства папрэш? Паматляў бес хвастом, стукнуў капытамі - і на зямлі апынуўся.

Што толькі не прапаноўваў Паскудны Чорт Марціну-Селяніну, каб у грэх яго ўвесці - і чарку падносіў, і золата поўную шапку дарыў, і да дзевак клікаў - усё дарэмна. Гарэлку Марцін-Селянін не піў, дармавых грошай ніколі ні ў каго не браў, а што тычыцца дзевак, дык хацеў ён, як і мае быць прыстойнаму чалавеку, законным шлюбам пабрацца.

Хадзіў Паскудны Чорт вакол хаты Марціна-Селяніна два дні і дзве ночы. Бачыць - нічога з яго спакусаў не выходзіць, бо Марцін той сапраўды прыстойны чалавек, амаль што святы. "Ну, - думае бес, - пэўна, выдасць мяне Пан Д'ябал на расправу да Пана Бога і Яго Святога Воінства. Апошні дзень на свеце жыву". Выпрашыў Паскудны Чорт з гора напіцца. Купіў пляшку гарэлкі, высмактаў яе з рыльца і выпрашыў: "Усё адно сканаю. Зраблю я, назло Пану Д'яблу, хоць адну добрую справу ў сваім жыцці". Толькі так падумаў, як бачыць - ідзе насустрач маладая дзяўчынка, ды такая прыгожая, што вачый адвесці няможна.

"Як завуць цябе, прыгажуня? - пытаецца бес. - І які клопат маеш?", а дзяўчына адказвае: "Завуць мяне Хрысцінка - Пекная Дзяўчынка, а клопат я маю такі: хачу шлюбам пабрацца, а вартых кавалераў няма, а тыя, што ёсць - ці алкаголікі, ці лайдакі, ці юрліўцы". "Як так няма, - кажа Паскудны Чорт, - ведаю я аднаго, Марцінам-Селянінам яго завуць. І прыгожы, і ладны, і гарэлкі не п'е, і на дармаўшчыну не спакушаецца, і на ват да дзевак не бегае, бо хоча законным шлюбам пабрацца. Ну амаль анёл, толькі без крылаў. Чым не жаніх?"

Карацей, пазнаёміў нячысцік Хрысціну - Пекную Дзяўчыну з Марцінам-Селянінам у той жа дзень, і закахалася прыгажуня ў хлопца. Паглядзеў на іх Паскудны Чорт, парадаваўся, і пайшоў зноў гарэлку піць.

Хрысцінка - Пекная Дзяўчынка глядзіць на Марціна-Селяніна і ўсё ў сваё шчасце дзявочае паверыць не можа. Пытаецца яна: "Марцінку, а ты мяне кахаеш?" -"Так," - адказвае хлопец. - "Не, сапраўды кахаеш?" - "Сапраўды." - "Не, ты мне шчыра скажа, кахаеш ці не? " - "Шчыра кажу - кахаю."- "А можа не кахаеш?.." Адзін раз спытала, другі раз, трэці, а пасля сотага разу абрыдла ўсё гэта Марціну, не стрымаўся ён, узяў сякеру й забіў Хрысцінку - Пекную Дзяўчынку...

А Паскудны Чорт з таго часу стаў найпершым намеснікам самога Пана Д'ябла.

* * *

Вось так і з'явілася прымаўка: "Дзе чорт не зможа, там баба паможа".

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Усё жыццё я думала, што найважнейшае ў жыцці чалавека — гэта секс. Ну і сапраўды ж, калі няма згоды і задавальнення партнёраў у гэтых справах, дык які ж застанецца сэнс жыцця? Толькі каханне дае чалавеку сапраўднае шчасце.

Трэба сказаць, Сэрцайка, што мне ў гэтым сэнсе пашанцавала. Муж мой быў проста майстрам у гэтых справах; быў ён маім першым мужчынам, паказаў мне што і як, навучыў, як кахаць і быць каханай.

Муж памёр у 35 гадоў, неспадзявана, хутка і бязлітасна. У яго выявілі рак косці. Засталася я адна з 11-гадовай дачкой. Шкадавала яе, хацела, як умела, дапамагчы ёй разумна прайсці праз жыццё.

Вядома, мне было цяжка адной. Зрэшты, не была я ні крывая, ні сляпая, а паспехам у мужчын карысталася заўсёды. Пачала і я запрашаць да сябе таго-сяго чалавека. Цяжка было. Жылі мы з дачушкай у адным пакоі з кухняй. Не хацелася прытуляцца ў яе на вачах, дык спачатку рабілі мы гэта на кухні. Пазней пачалі спаць у тым жа пакоі, што і дачка. Кахаліся, калі яна засынала. Я не хацела нічога таіць перад ёю. Яна ж ужо падрастала. Я растлумачыла дачцэ, што кабеце цяжка быць без мужчыны. Яшчэ пазней, калі мужчыны ў мяне пачалі змяняцца, я тлумачыла малой, што найважнейшае ў жыцці чалавека — секс, што ён прыносіць чалавеку супакаенне і задавальненне, дапамагае змагацца са штодзённымі цяжкасцямі. Малая, здавалася мне, разумела мяне і апраўдвала мяне перад суседкамі, якія абгаворвалі мяне. Сумленная жанчына выйшла б замуж за аднаго, казалі, але ж аднаго ёй мала! Ёй тузін трэба!

А гэта ж не была праўда, бо тыя, з кім я сябравала для сексу, зусім не спяшаліся стаць бацькамі маёй дачушкі. Жыццё было яшчэ перад імі. Толькі тады, калі мая дачка стала студэнткай, у маім жыцці паявіўся чалавек, за якога я выйшла замуж. Быў разведзены, але меў вілу, самаход і, найважнейшае, любіў маю дачку. Мы пачалі весці спакойнае жыццё.

Тым часам малая падрасла і выйшла замуж. Хлопец быў цудоўнай прыгажосці, высокі, чарнявы, з блакітнымі вачыма. На жаль, нічога больш сабою не прадстаўляў. Не меў адукацыі, часта змяняў працу — то ён слесар, то шатняр, то „гарыла" ў рэстаране. У ложку, аднак, быў надзвычайны, казала дачка.

Я хацела, каб і мой зяць пайшоў у якуюсьці вышэйшую школу, але ён мне адказаў, што цяпер гэта не мае значэння. Мо і меў рацыю, але ж мне б так хацелася мець разумнага зяця.

Дачка на ўсе гэтыя мае закіды адказвае: „Ты ж сама заўсёды падкрэслівала, што галоўнае ў жыцці — гэта секс! А цяпер ад сваіх поглядаў адракаешся? У пасцелі нам з ім вельмі добра, а рэшта — няважная!"

А я не магу глядзець на гэты „секс". Бывае, што і руку на яе падымае, і лае апошнімі словамі, яна ўцякае ад яго да мяне, потым ён прыходзіць, перапрашае — і яна зноў да яго вяртаецца, да гэтага балвана. Мне гэтая яго прыгажосць ужо калом у горле стаіць, але нічога не магу зрабіць. Муж злуецца, калі дачка прыходзіць і адыходзіць. У нас жа віла, няхай сядзіць тут! А яна яго кахае і зноў ірвецца да гэтага хлопца. А іх жа толькі секс і яднае. Што ж тут зрабіць?

**Браніслава**

Браніслава! Пачакаць! Альбо ўсё наладзіцца, пачнуць радзіцца дзеці, будзе больш супольных спраў, мо і хлопец яе пасталее, ды перастане рэагаваць на ўсё гвалтоўна. Альбо каторагась разу дачка, адышоўшы, ужо да яго не вернецца. Горш, калі зробіць гэта, калі ўжо будзе дзіця.

Секс адыгрывае велізарнае, мо найбольшае значэнне ў жыцці чалавека (ты ж сама дачку гэтаму навучала), але пры ім мусяць быць заўсёды дапаможныя элементы — падобная ступень інтэлігентнасці, паразуменне, агульны падыход да жыцця і супольныя зацікаўленні.

Не падмацаваны такімі элементамі, секс доўга не пратрывае.

**СЭРЦАЙКА**